



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

25 лістапада 2016 года №48 (1126)


**КУПОН**
**на 50% зніжку ў трэнажорную залу "Тытан".**

старонка 22

**Як інтэрнаты прынеслі "Камунальніку" 800 тысяч страт**

старонка 21

**Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх: Марым пра тое, каб працы стала менш**

старонка 4

# Расход паліва адзін літр на 100 кіламетраў? Гэта рэальна, сцвярджае гаспадар электрамабіля

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.

**Падпішыся на "Рэгіянальную газету", пакуль яе не згрыз бабёр!**

**Распачалася падпіска на газету на 2017 год. Кошт індывідуальнай падпіскі на месяц – 2 рублі 65 капеек.**



ТЭМА НУМАРА

# Расход паліва – літр на 100 км? Гэта электрамабіль!

МАЛАДЗЕЧНА

**Яшчэ не так даўно можна было толькі марыць пра тое, што было б, напэўна, крута, каб машыну можна было паставіць на ноч на зарадку, а назаўтра ехаць на ёй куды хочаш.**

А цяпер? Такія машыны з будучыні ўжо ездзяць па Маладзечне. Гэты цуд тэхнікі завецца электрамабілем.

Пра тое, якія перавагі ёсць у такой машыне, дзе ўзяць зарадку для яго, на колькі такі аўтамабіль зэканоміць сямейны бюджэт, мы пагутарылі з гаспадаром электрамабіля – **Мікалаем**.

Але мне здаецца, што гэта памылка, што майго суразмоўцу завуць Мікалай. Ён павінны быў звацца Рудольфам. Бо, як герой фільма "Масква слязам не верыць", Мікалай сцвярджае, што хутка не будзе ні бензінавых машын, ні тых, што працуюць на салярцы, застануцца адны электрамабілі.

Ездзіць Мікалай на машыне "Нісан-Лайф". Машына 2013 года выпуску. Пасябраваў Мікалай з ёй у маі гэтага года і развітвацца пакуль не плануе.

– Выбраў я яе толькі ў мэтах эканоміі, як машыну для горада. Мой Нісан – гэта другая машына ў сям'і. Для далёкіх паездак ёсць звычайны аўтамабіль.

Электрамабіль на адной зарадцы праязджае прыкладна 160 кіламетраў.

– Летам дакладна праязджае 160 кіламетраў, зімой, калі ўключаная печка, ён цягне кіламетраў 120.

Калі машына разраджаецца, яна пачынае непрыемна пішчаць, нагадвае пра сябе, што яе трэба "пакарміць".

А як толькі падключаеш яе да разеткі, адразу загараецца індыкатар зарадкі.

Ну, усё як у мабільніку!

Самы вялікі недахоп у такой машыне, расказвае Мікалай, гэта адсутнасць магчымасці зарадзіць яе як у горадзе, так і на трасе.

– Бліжэйшая зарадка для электрамабіля знаходзіцца ў Шараях, што непадалёк ад Валожына на гродзенскай трасе.

У Маладзечне зарадкі для электрамабіляў пакуль няма.

Таму гаспадару машыны даводзіцца "запраўляцца" дома.

– Я не разраджаю батарэю на нуль. Як толькі бываю дома, стаўлю машыну на гадзіну-дзве на зарадку. Добра, што жыву ў прыватным доме, ёсць магчымасць зараджацца ў двары. Гаспадарам кватэр у гэтым плане, вядома, больш цяжка. Адзінае выйсце, зараджаць аўто ў гаражы.

Калі ж батарэя ў электрамабілі цалкам разраджаная, то яе можна зарадзіць за восем гадзін. На запраўках жа магутнасць іншая. Машына цалкам зарадзіцца за паўгадзіны.

А калі гаварыць пра эканомію ў лічбах, то Мікалай падлічыў.

Машына праязджае пяць кіламетраў на адным кілаваце электраэнергіі. Атрымоўваецца, што на 100 кіламетраў машына расходуе 20 кілават. А калі ведаць, што адзін кілават каштуе прыкладна 10 капеек, то нескладана падлічыць, што на 100 кіламетраў машына абыходзіцца ў два рублі.

**Калі гэтыя грошы перавесці ў бензін, атрымоўваецца, што машына расходуе адзін літр паліва на 100 кіламетраў.**

Эканамічны цуд, не інакш!

Электрамабіль ад звычайнага аўто знешне адрозніваецца хіба толькі тым, што ў яго няма выхлапной трубы.

А ў салоне мяне здзівіла тое, што машына заводзіцца не ключом, а кнопачкай POWER, быццам ты ўключаеш тэлевізар.

Эканомны электрамабіль яшчэ і таму, што з усіх "расходнікаў" у ёй трэба мяняць толькі аліву ў рэдуктары. Ні рэменя, ні ланцугоў, ні алівы ў такой машыне няма.

– Я на сваёй машыне яшчэ не праверыў, але чытаў, што батарэя ў электрамабілях разлічаная на 500 – 800 тысяч кіламетраў. Калі гэта інфармацыя дакладная, то на 10 гадоў такой машыны хопіць.

Каштуе электрамабіль прыкладна столькі, колькі каштуюць іх бензінавыя аналагі.

**Цэны на той жа "Нісан-Лайф" пачынаюцца ад 4000 долараў.**

Прадпрымальнік з Маладзечна **Мікалай Кубіцкі**, які займаецца продажам электрамабіляў, расказаў "Рэгіянальнай газеце", што апошнім часам усё больш людзей аддаюць перавагу экалагічным і эканамічным машынам.

– На сённяшні дзень каля 80% аўтамабіляў, што мы возім з ЗША, – гэта электрамабілі. Беларусы аддаюць перавагу больш танным мадэлям: яны набываюць "Нісаны", "Міцубісі", "Форды", "Шаўрале", расіяне ж выбіраюць БМВ. Прывозіў я ў Расію і знакамітую "Тэслу". Ведаю мінімум дваіх уладальнікаў электрамабіляў, якія ездзяць па Маладзечне.

Сам Мікалай быў першым чалавекам у краіне, хто ў 2014 годзе сабе прыгнаў электрамабіль.

– Было цікава, што за ён. Купіў, пагуляўся і прадаў яго. Сам цяпер езджу на гібрыдным аўтамабілі.

Пра перавагу і недахопы гібрыдных машын, мы раскажам у адным з наступных нумароў газеты.

**Наталля ТУР.**




Уладальнік электрамабіля Мікалай прызнаецца, што не можа нарадавацца яго эканамічнасці.

Фота Наталлі ТУР.




Фота Наталлі ТУР.



Фота Наталлі ТУР.



Фота Наталлі ТУР.

Калі электрамабіль бачыш упершыню, здзіўляешся, што трэба вазіць з сабой зарадку і што заводзіцца ён адной кнопкай.

# Сусветны банк выдзяляе Беларусі 125 мільёнаў долараў на мадэрнізацыю сістэмы аховы здароўя

**Савет выканаўчых дырэктараў Сусветнага банка ўхваліў выдзяленне Беларусі пазыкі ў памеры 125 мільёнаў долараў на рэалізацыю праекта мадэрнізацыі сістэмы аховы здароўя, накіраванага на павышэнне асобных аспектаў якасці медыцынскай дапамогі ў краіне.**



Архіў "РГ".

На грошы Сусветнага банка ў Беларусі пабудуюць навучальныя лабараторыі і закупяць новае абсталяванне.

Як паведамілі ў прадстаўніцтве Сусветнага банка, праект падтрымае намаганні Беларусі ва ўдасканаленні медыцынскай дапамогі нованароджаным, стварэнні сістэмы электроннай аховы здароўя і ўкараненні сістэмы падтрымкі клінічных рашэнняў на аснове інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій (ІКТ). Праект будзе таксама спрыяць павышэнню ўзроўню клінічных кампетэнцый работнікаў аховы здароўя па вядзенні неінфекцыйных захворванняў.

Сусветны банк прыйшоў да высновы, што ў Беларусі ёсць магчымасці для далейшага павышэння эфектыўнасці і якасці аказання медыцынскіх паслуг.

– Высокі ўзровень распаўсюджанасці неінфекцыйных захворванняў, у прыватнасці сардэчна-сасудзістых захворванняў, з'яўляецца асноўнай прычынай нізкай працягласці жыцця ў Беларусі, асабліва сярод мужчынскага насельніцтва. У краіне таксама існуе неабходнасць далейшага развіцця сістэмы першаснай медыцынскай дапамогі з акцэнтам на ліквідацыю няроўнасці аказання медыцынскай дапамогі паміж гарадской і сельскай мясцовасцю, – адзначаюць у банку.

– Гэты праект дазволіць укараніць сістэму электроннай аховы здароўя ў нацыянальным маштабе ў мэтах узмацнення патэнцыялу дыягностыкі захворванняў, механізмаў падтрымкі клінічных рашэнняў пры ажыццяўленні лячэбных мерапрыемстваў і наступнага маніторынгу стану пацыентаў на сістэмнай аснове. Сістэма электроннай аховы здароўя таксама забяспечыць магчымасці для эфектыўнага выкарыстання агрэгаваных клінічных даных пры распрацоўцы і рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў ахове здароўя, – адзначыў кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі **Ян Чул Кім**.

**У межах праекта будуць створаныя сучасныя навучальныя лабараторыі па адпрацоўцы навыкаў работнікаў аховы здароўя, пабудаваны новы корпус Аддзялення інтэнсіўнай неанатальнай дапамогі.**

Гэта будзе спрыяць павышэнню якасці жыцця грамадзян Беларусі.

Зацверджаны праект "Мадэрнізацыя сістэмы аховы здароўя" грунтуецца на высновах Агляду дзяржаўных расходаў у Рэспубліцы Беларусь, падрыхтаванага Сусветным банкам у 2013 годзе, у якім падкрэслена неабходнасць аптымізацыі сістэмы аказання медыцынскай дапамогі, узмацнення акцэнту на першасную медыцынскую дапамогу і прафілактыку, асабліва ў дачыненні да неінфекцыйных захворванняў, а таксама ўдасканалення механізмаў кіравання якасцю медыцынскіх паслуг і ўзмацнення адказнасці за вынікі.

– Праект прадугледжвае аказанне падтрымкі ў прафілактыцы, раннім выяўленні і лячэнні сардэчна-сасудзістых захворванняў, уключаючы гіпертанію, што з'яўляецца асноўным выклікам у кантэксце старэння насельніцтва Беларусі. Праект таксама падтрымае мерапрыемствы па ўдасканаленні сістэмы інтэнсіўнай неанатальнай дапамогі для нованароджаных. Інтэграваная інфармацыйная сістэма аховы здароўя забяспечыць бесперабойны абмен інфармацыяй паміж усімі ўзроўнямі сістэмы аховы здароўя і з пацыентамі, што дазволіць палепшыць кантроль захворвання, – адзначыла **Сюзанна Хайрапецян**, вядучы спецыяліст па ахове здароўя і кіраўнік групы спецыялістаў Сусветнага банка.

Рэспубліка Беларусь стала членам Сусветнага банка ў 1992 годзе. За час супрацоўніцтва краіне былі выдзеленыя крэдытныя рэсурсы ў памеры 1,7 мільярда долараў ЗША.

Акрамя гэтага, шэраг праграм, уключаючы праграмы, якія рэалізуюцца пры ўдзеле арганізацый грамадзянскай супольнасці, атрымаў падтрымку за кошт грантавага фінансавання ў аб'ёме 28 мільёнаў долараў. З зацвярджэннем гэтага праекта інвестыцыйны партфель Сусветнага банка ў краіне ўключае дзевяць праектаў на агульную суму 973 мільёны долараў ЗША.

**Паводле БЕЛАПАН.**





| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.11 | 24.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9498 | **1,9447** |
| Еўра | 2,0892 | **2,0617** |
| Злоты, 10 | 4,7920 | **4,6818** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0156 | **3,0519** |
| Грыўня, 100 | 7,5124 | **7,4056** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 16.11 і 23.11** | | |
| Еўра | 2.0800/2.1150 | **2.0500/2.0750** |
| Долар ЗША | 1.9350/1.9600 | **1.9400/1.9550** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 16.11 | | 23.11 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 145 000 | 14,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 69 900 | 6,99 | 69 900 | 6,99 |
| Капуста, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 2 300 | 0,23 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 48 500 | 4,85 | 39 500 | 3,95 |
| Лімоны, 1 кг | 33 500 | 3,35 | 33 500 | 3,35 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 500 | 2,95 |
| Мандарыны, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 28 500 | 2,85 |
| Гранаты, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 22 500 | 2,25 |
| Агуркі, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 37 500 | 3,75 |
| Перац, 1 кг | 39 500 | 3,95 | 43500 | 4,35 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 29 500 | 2,95 |
| Вінаград, 1 кг | 33 000 | 3,30 | 29 900 | 2,99 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 2 000 | 0,20 | 2 500 | 0,25 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

НАВІНЫ

## Шукаюць кіроўцу, які наехаў на пешахода на дарозе Мінск-Маладзечна-Нарач

МАЛАДЗЕЧНА

23 кастрычніка а палове сёмай вечара кіроўца аўто "Фіят-Скуда" рухаўся па дарозе Мінск-Маладзечна-Нарач у накірунку Мінска з вёскі Крыніца.

Ён наехаў на пешахода, які знаходзіўся на праезнай частцы.

Калі вы былі сведкам альбо відавочцам здарэння, звярніцеся ў Маладзечанскі РАУС, які знаходзіцца па вуліцы Тамары Дудко, 1-18, альбо па тэлефонах **(80176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102**.

**Паводле інспектара ДПС АДАІ Маладзечанскага РАУС, лейтэнанта міліцыі Дзяніса Каралькевіча.**

## Жыхар Валожынскага раёна, каб выпіць, скраў корм у калгасных кароў

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 10 лістапада ў адным з сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Валожынскага раёна.

Палявод прадпрыемства, 22-гадовы хлопец, захацеў выпіць. У сваю кампанію падбіў вартаўніка таго ж прадпрыемства, 26-гадовага мужчыну.

Як і бывае, спіртное хутка скончылася. Грошай яшчэ на адну бутэльку не было. Тады палявод стаў угаворваць вартаўніка прадаць штосьці з маёмасці СВК.

Вартаўнік наадрэз адмовіўся. А палявод, пахадзіўшы па тэрыторыі, збіў замок з аднаго памяшкання і скраў адтуль пяць мяхоў замяняльніка малака.

Тут жа, ноччу, знайшоў, каму яго прадаць.

А вартаўнік, які толькі праз некаторы час рабіў абыход, заўважыў, што з памяшкання сарваны замок, выклікаў міліцыю.

– Скрадзены корм вернуты гаспадарам, а супраць палявода ўзбуджаная крымінальная справа, – падсумавала следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

**Наталля ТУР.**

## Абвінавачанне ашмянскаму мытніку Алесю Юркойцю: хабар 12 700 долараў

АШМЯНЫ

22 лістапада на працэсе над 11 ашмянскімі мытнікамі пракурор зачытаў абвінавачанні ўсім падсудным.

Абвінавачанне мытніку і краязнаўцу з Астраўца **Алесю Юркойцю** зачытвалі па-беларуску цягам 1,5 гадзіны.

Разам з Юркойцем у злачынную групу, паводле следства, уваходзілі мытнікі **Сур'янц**, **Высоцкі**, **Лапшэвіч**, **Мароз**, **Букель** і іншыя.

Дзейнічала групоўка, у склад якой нібыта ўваходзіў Алесь Юркойць, на мытным пасту "Каменны Лог".

Хабар, гаворыцца ў абвінавачванні, бралі з аўтамабіляў, якія везлі з тэрыторыі Еўрасаюза ў Расію і Казахстан кветкі, а таксама іншыя тавары.

Паводле следства, Юркойць мусіў інфармаваць начальства пра парушэнні, якія допускаць іншыя мытнікі, і не дапускаць гэтых парушэнняў.

Тарыфы хабару былі ад 250 да 80 долараў за аўтамабіль з кветкамі.

Паводле следства, хабары ад прадстаўнікоў фірмаў перадаваліся ў Вільні, у Маскве, у Мінску ў Нацыянальным аэрапорце, на тэрыторыі пункта "Каменны Лог" ды ў іншых месцах.

Усяго групоўка, з якой быў звязаны Юркойць, нібыта атрымала каля 600 тысяч долараў ЗША.

Юркойць нібыта атрымаў 12 тысяч 700 долараў ЗША.

Вядома, што да суда Алесь Юркойць не прызнаваў сябе вінаватым. Яго ўтрымліваюць пад вартай больш за 20 месяцаў.

У судовай зале, пакуль ішоў працэс, прысутнічалі грамадскія актывісты і сябры Алеся.

Іншым падсудным у справе 11 ашмянскіх мытнікаў інкрымінаваныя хабары ад 8 да 18 тысяч далярaў. Кіраўнікоў Ашмянскай мытні, якія фігуруюць у тым ліку ў гэтай справе, судзяць асобна ў Мінскім абласным судзе.

**svaboda.org**



# Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх: Марым пра тое, каб працы стала менш

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскай інспекцыі па справах непаўналетніх сёння працуюць пяць чалавек: начальнік і чатыры інспектары.**

Як такім невялікім складам вырашыць пытанні з праблемнымі падлеткамі? Плённа супрацоўнічаць з бацькамі? Праводзіць прафілактычныя сустрэчы ў школах і пры гэтым знаходзіць час на ўласную сям'ю? Пра гэта распавала начальнік інспекцыі **Ганна Царык**.

З ёй мы сустрэліся ў аўторак, а не ў панядзелак, як планавалі раней.

– Ведаеце, на панядзелак у нашай працы лепш нічога не планаваць, – прызналася жанчына.

Аказалася, старая ісціна пра тое, што панядзелак – дзень цяжкі, вельмі дакладна характарызуе працу інспекцыі па справах непаўналетніх.

Тут ніколі не ведаюць, як пройдуць выхадныя. Калі спакойна, то выдатна. А часам такія выхадныя надараюцца, што ўвесь панядзелак інспектары разбіраюцца з правапарушэннямі, што ўчынілі, як тут кажуць, "нашы малышы".

### Паняццяў "мужчына" і "жанчына" ў нас няма

З прагляду міліцэйскіх зводак і нарады ў РАУС пачынаецца кожны працоўны дзень начальніка інспекцыі. Пасля – збор інспектараў, бягучыя пытанні, персанальныя заданні.

Ніякіх палавых адрозненняў у адносінах да сваіх супрацоўнікаў начальнік не робіць. У нас няма паняццяў "мужчына" і "жанчына", ёсць адно паняцце – супрацоўнік міліцыі, – упэўненая начальнік. Таму "слабаму полу" палёгкі ад начальніка чакаць не даводзіцца.

Адзінае, прызналася Ганна Царык, інспектары-мужчыны **Віктар Лапша** і **Андрэй Сялюн** разам з дзяўчатамі **Дар'яй Бічун** і **Аленай Дубовік** могуць наведваць так званых "абавязаных асоб".

– Асобы гэтыя, – падзялілася Ганна Царык, – рознымі бываць. Таму без мужчынскага пляча такое наведванне не заўсёды магчымае.

У той жа час дзяўчаты больш акуратна працуюць з дакументамі. І тут ужо калегі-мужчыны звяртаюцца да іх па дапамогу.

Ганна Царык не адмаўляе, што начальнік яна патрабавальны. Але ж і чалавечы фактар, упэўненая жанчына, ніхто не адмяняў. Магчыма, таму адносіны ў калектыве сяброўскія. Ёсць узаемавыручка і ўзаемадапамога.

80% інспектараў атрымалі педагагічную адукацыю. Для працы ў інспекцыі яна не абавязковая, але не лішняя, – лічыць начальнік, якая таксама мае адукацыю педагога. Асноўная праца ў інспекцыі – гэта работа з дзецьмі і іх бацькамі. А дзе як не ў педагагічнай ВНУ гэтаму могуць навучыць?

### Жаласлівасць?.. Ні ў якім разе

Пытаюся ў Ганны Царык, наколькі патрэбнае або не патрэбнае пачуццё жаласлівасці ў працы інспектара?

Аказваецца, тут яму не месца. Ёсць шмат іншых, больш прымальных, сінонімаў гэтаму слову, лічыць начальнік інспекцыі. Узаемадапамога, суперажыванне, спачуванне.

Жанчына не разумее, чаму ў супрацоўнікаў інспекцыі павінна быць жаласлівасць да дрэнных бацькоў, якія не хочуць выконваць элементарныя нормы па доглядзе за ўласным дзіцем. Да тых мам і тат, якія не могуць выправіцца нават за тыя паўгода, праз якія ў іх дзяржава забірае дзяцей.

Тое ж самае і з юнымі правапарушальнікамі. Калі пашкадаваць і не звярнуць увагу на першае дробнае правапарушэнне падлетка, то за ім будзе другое. І яно стане ўжо больш сур'ёзным.

Мы не дабрачынная арганізацыя, не хоспіс і не Чырвоны крыж, часам кажа сваім супрацоўнікам начальнік. Трэба ўлічваць тое, што міліцыя – гэта, перш за ўсё, карны орган. Часта рашэнні трэба прымаць хутка і без эмоцый.

І, прызнаецца жанчына, мы ніколі не палохаем дзяцей самім фактам пастаноўкі на ўлік. Нічога страшнага з "падуліковымі" хлопцамі і дзяўчатамі тут не робяць. Толькі прафілактычная работа, тлумачэнні, удзел у спецыяльных мерапрыемствах і папярэджанне далейшых правапарушэнняў.



Ганна Царык: Мы ніколі не палохаем пастаноўкай на ўлік.

Фота забяспечанае Ганнай ЦАРЫК.

### Склалі сацыяльны партрэт падлетка-правапарушальніка на Вілейшчыне

На сёння на ўліку ў інспекцыі стаіць 60 непаўналетніх: 46 хлопцаў і 14 дзяўчат. Самыя частыя прычыны, па якіх падлеткі трапляюць на ўлік, гэта распіванне спіртных напояў і знаходжанне ў цёмны час без флікера.

Большая частка з "падуліковых" – навучэнцы сярэдніх спецыяльных устаноў Вілейшчыны.

Па назіраннях Ганны Царык, гарадскія падлеткі часцей трапляюць на ўлік, чым іх аднагодкі з вёскі.

Хто ён, падлетак, які здзяйсняе правапарушэнні на Вілейшчыне? У інспекцыі склалі яго сацыяльны партрэт. Гэта навучэнец сярэдняй спецыяльнай установы, хлопец 16-17 гадоў, як правіла, з сям'і, што знаходзіцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы.

Аднак ёсць і выключэнні. Па словах Ганны Царык, часам здараецца так, што на ўлік трапляе дзіця з добрай сям'і, тое, якое не мае ні ў чым патрэбы.

На дрэнны ўчынак такога падлетка можа падштурхнуць жаданне паспрабаваць нешта новенькае, імкненне паказаць сябе больш дарослым і "крутым" перад іншымі. Па назіраннях інспектараў, у 15-17 год дзеці вельмі залежныя ад таго, што пра іх падумаюць аднагодкі.

Большая частка з усіх "падуліковых" выпраўляюцца. Калі ж выніку няма, то гэта сем'і, дзе бацькі самі не зацікаўленыя жыццём уласнага дзіцяці, не хочуць супрацоўнічаць з інспекцыяй.

Часам супрацоўніцтва сям'і і інспекцыі не спыняецца з 18-гадовым узростам дзіцяці. Бацькі і былыя "падуліковыя" падлеткі прыходзяць у інспекцыю са словамі ўдзячнасці.

Тое, што вучань пэўны час стаяў на ўліку, па словах начальніка, не кляймо на ўсё жыццё. Адзінае, могуць узнікнуць пытанні з паступленнем ва ўстановы МНС і МУС.

Сёлета колькасць правапарушэнняў непаўналетніх на Вілейшчыне значна знізілася. У 2015 годзе іх было 25, у 2016 стала 13.

Гэта добры паказчык. Інспекцыі ёсць чым ганарыцца, лічыць Ганна Царык. Але супрацоўнікі ўсё роўна мараць пра тое, каб у іх стала менш працы. Тады б можна было паднаць вочы ад пратаколаў і больш увагі ўдзяліць прафілактычнай рабоце, сустрэчам з дзецьмі ў гарадскіх і сельскіх школах.

### Калі атрымаецца адпачыць з сям'ёй, адпачываем актыўна

Работа ў супрацоўнікаў інспекцыі вельмі насычаная. Па словах Ганны Царык, далёка не заўсёды бываюць паўнацэнныя выхадныя.

Аднак калі яны здараюцца, кажа жанчына, актыўна праводзіць час з уласнымі сем'ямі.

– У нашай сям'і гэта сумесныя паездкі, лыжы, прыгатаванне печыва. А ўвогуле мая 16-гадовая дачка прывыкла да самастойнасці і выдатна вучыцца ў школе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Ці выратуе ад анеміі гранатава-пячоначная дыета?

## На пытанні чытачоў адказвае доктар-тэрапеўт

МАЛАДЗЕЧНА

**– Нягледзячы на асенне-зімні перыяд, вялікіх чэргаў ля майго кабінета цяпер няма,**

– кажа маладзечанскі ўчастковы тэрапеўт **Настасся Пупко**. – Цягам дня прымаем каля трыццаці чалавек.

Карыстаемся момантам, пакуль у доктара ёсць час, і перадаём пытанні ад чытачоў "Рэгіянальнай газеты" ў рукі спецыяліста.

### "Не спрабуйце падняць гемаглабін гематагенкамі!"

**– Калі сутыкаешся з прастудай і ідзеш у аптэку па парашкі, вочы разбягаюцца. А ці адрозніваюцца гэтыя парашкі па сваім дзеянні?**

– Састаў усіх парашкоў прыкладна аднолькавы. У большасці з іх у саставе будзе парацэтамол і вітамін С. Таму нейкія асабліва моцныя і дзейсныя сярод іх я не магу вылучыць, яны дзейнічаюць аднолькава. Каб не разгубіцца ў выбары, набывайце лекі, арыентуючыся на добры для вас кошт і смакавую дабаўку.

**– Калі хвароба паўтараецца – тыя ж самыя сімптомы і самаадчуванне, ці магу я сам пачаць піць тыя ж самыя лекі, што дапамаглі мне мінулым разам?**

– Трэба зноў звярнуцца да доктара і не займацца самалячэннем. Асабліва небяспечна гэта ў выпадку антыбіётыкаў. Калі ўжываць іх без кантролю, то яны проста перастануць дзейнічаць – шкодныя мікраарганізмы стануць устойлівымі да антыбіётыкаў. Да таго ж лекамі вы пашкодзіце мікрафлору страўнікавакішачнага тракту. У нас людзі любяць ад усяго лячыцца антыбіётыкамі. Але калі хвароба вірусная, то ніякімі антыбіётыкамі яе не вылечыш.

**– Як павысіць узровень гемаглабіну ў крыві без таблетак?**

– Ніякая дыета не падыме ўзровень гемаглабіну. Нават калі вы будзеце есці пячонку ўпрыкуску з гранатам. Нізкі гемаглабін, ці анемія, – насамрэч вельмі сур'ёзная праблема, і ніякімі гематагенкамі тут не дапаможаш. Гэта не самастойны дыягназ, а сімптомы сотняў хвароб, у тым ліку анкалагічных. Трэба высвятляць прычыну.

**– Новы доктар сказаў, што вітаміны лепей піць не курсам у некалькі месяцаў, а па схеме: дзесяць дзён п'ём, дваццаць не. І так круглы год. Як вы гэта пракаментуеце?**

– Першы раз чую пра такую схему. Звычайна для прафілактыкі мы рэкамендуем два курсы вітамінаў на год альбо хаця б адзін вясной. Часцей піць вітаміны могуць тыя, хто мае павышаныя фізічныя ці разумовыя нагрузкі, лячыўся антыбіётыкамі, перанёс хіміятэрапію ці аперацыю, а таксама цяжарныя. У любым выпадку варта прымаць іх па інструкцыі, бо састаў вітамінаў бывае вельмі розны.

А калі вы хочаце падабраць вітаміны спецыяльна пад патрэбы свайго арганізма, то варта зрабіць аналіз крыві на вітаміны і мікраэлементы. Вядома, ён робіцца не ва ўмовах паліклінікі, а ў прыватных лабараторыях.


Фота забяспечана Настассяй ПУПКО.

Маладзечанскі ўчастковы тэрапеўт Настасся Пупко.

### Навошта кожны раз хадзіць да тэрапеўта?

– Чаму перад паходам да больш вузкага спецыяліста трэба пастаянна ісці да тэрапеўта? А калі чалавек ведае, што ў яго хворае сэрца і яму трэба да кардыёлага?

– Гэта пытанне я пастаянна бачу ў сацсетках і на сайтах паліклінік. Але вы не ўяўляеце, колькі прыходзіць людзей, якія самі сабе паставілі дыягназ! У некага баліць спіна, і ён ідзе да неўролага, хаця насамрэч у яго праблемы з ныркамі. А ледзь не кожная бабуля ўпэўненая, што мусіць ісці менавіта да кардыёлага. Дарэчы, у нас на раён толькі адзін кардыёлаг.

Візіт да тэрапеўта патрэбны, каб правільна накіраваць хворага.

Што тычыцца хранічных хворых, якія рэгулярна мусяць праходзіць пэўныя працэдуры і даследаванні, то яны стаяць на дыспансерным уліку. Дактары самі іх ведаюць і часам могуць на месцы выдаць талон на наступны візіт. Тады паход да тэрапеўта неабавязковы.

**– Па тэлевізары ў праграме пра здароўе казалі, што спрасаваныя таблеткі можна піць яшчэ год-два пасля таго, як выйшаў тэрмін прыдатнасці. Маўляў, вытворцы спецыяльна пішуць на ўпакоўцы карацейшы тэрмін, каб людзі часцей куплялі тавар. Ці так гэта?**

– Гэта пытанне не да доктара, а да вытворцы лекаў. Сама я заўсёды прытрымліваюся інструкцыі, якую змяшчаюць на ўпакоўцы.

**– Кроплі для носа – вельмі бяскрыўдныя лекі. Ці можна карыстацца імі без кансультацыі доктара?**

– Калі з'явіўся лёгкі насмарк, то можна карыстацца сасудазвужальнымі кроплямі. Але не злоўжывайце: калі капаць больш за тыдзень, то арганізм прывыкне і лекі перастануць дапамагаць. А калі насмарк не праходзіць цягам пяць-сямі дзён, гэта можа быць праявай гаймарыту ці іншых сур'ёзных захворванняў.

**– Пра што могуць казаць павялічаныя лімфавузлы?**

– Гледзячы ў якім месцы. Калі павялічаныя лімфавузлы на шыі ці пад ніжняй сківіцай, то гэта можа быць як праявай звычайнай прастуды, так і вельмі сур'ёзных хвароб – напрыклад, пухліны ці ВІЧ. Павялічаныя лімфавузлы пад пахамі могуць казаць пра хваробы малочных залоз, хваробы крыві. Кожны выпадак індывідуальны, таму ў першую чаргу трэба ісці да тэрапеўта: здаваць аналізы і рабіць УГД.

### Зімой "налягаем" на вітамін Д

**– Ці ёсць нейкі вітамін ці элемент, недахоп якога асабліва адчуваецца арганізмам узімку?**

– У першую чаргу зімой нам не хапае вітаміну Д. Ён выпрацоўваецца ў скуры пад уздзеяннем сонца. А ўсе мы ведаем, што ў Беларусі сонца зімой амаль не відаць. Таму неабходны працяглы прыём вітаміну Д – можна прымаць яго ў чыстым выглядзе, можна ў саставе полівітамінных комплексаў.

**– Якія агульныя парады на зімовы перыяд вы можаце даць чытачам?**

– Тут я наўрад ці скажу нешта новае. Па-першае, трэба правільна харчавацца: есці садавіну, гародніну, крупы, рыбу, піць дастаткова вадкасці. Зімой не трэба забывацца на лімон і часнок. Па-другое, памятаць пра фізічную нагрузку – за паходы ў спартзалу ці басейн ваш арганізм будзе вам удзячны. А паездку на работу ў душным аўтобусе, які ўжо ўсе абчыхалі і напоўнілі мікробамі, трэба замяніць на шпацыр на свежым паветры.

**– Як вы ставіцеся да сцвярджэння, што "ўсе хваробы ад галавы"?**

– Менавіта так, згодная. Нашыя думкі і лад жыцця – з іх на 80% складаецца наш стан здароўя. Пазітыўнае стаўленне да ўсяго – абавязковая ўмова здароўя. Таму не звяртайце ўвагі на надвор'е за акном, стварайце сабе самі нагоды для радасці!

Аляксандра ПАРАХНЯ.

## Топ-5 прычын, чаму не ўсе любяць макіяж




Працягваем размовы пра прыгажосць. Сёння абсалютная чэмпіёнка Беларусі па макіяжы дырэктар вучэбнага цэнтра "Сфера прыгажосці" **Святлана Прадуха** раскажа пра падводныя камяні ў макіяжы як паслузе. Яна раскажа, чаму з'яўляюцца людзі, якія не любяць макіяж.

### Чаму некаторыя не робяць макіяж, не ходзяць да візажыстаў:

**1. Макіяж шкодны для здароўя.**

І так, і не. Калі вы карыстаецеся пратэрмінаванай няякаснай касметыкай, якая выклікае алергію і забівае поры, гэта шкодна. Якасная прафесійная касметыка створаная, каб абараніць скуру ад пашкоджанняў, мае лячэбны эфект – абараніць скуру ад бруду.

**2. Мне зрабілі адзін раз макіяж, і я сябе не пазнала.**

Калі вы трапілі ў рукі непрафесіянала альбо да чалавека, які нелегальна працуе, у вас вялікі шанец сапсаваць лепшы дзень, для якога вы і рабілі макіяж. Усе памылкі яго будуць бачныя на фота, відэа. А калі фатограф не валодае тэхнікай рэтушы макіяжу, такія фота вам дакладна не спадабаюцца. Прыйдзецца перарабляць, а значыць, плаціць двойчы.

У сацсетках многа так званых "прафесіяналаў". У большасці выпадкаў кліенты застаюцца ў шоку і адразу змываюць тое, што павінна было зрабіць прыгожай. Каб гэтага пазбегнуць, уважліва вывучыце інфармацыю пра досвед, прафесійны ўзровень спецыяліста. Інакш вы можаце трапіць да махляроў, якім дарма заплаціце грошы і назаўсёды сапсуеце меркаванне пра візажыстаў. Выбірайце легальныя паслугі.

**3. Я люблю натуральную прыгажосць.**

Людзі, якія так гавораць, не дагаворваюць праўды, бо стрыгуць пазногці, робяць маскі для твару, карыстаюцца духамі, фарбамі для валасоў… Усе карыстаюцца касметыкай, каб захаваць і палепшыць прыгажосць. Таму, калі разабрацца, натуральная прыгажосць не такая і натуральная.

**4. Не ўмею фарбавацца, не займаюся гэтым.**

Усе мы некалі пачыналі рабіць сябе прыгожымі: вышчыпвалі бровы, падмалёўваліся, стрыглі валасы... Пасля саромеліся выйсці ў такім выглядзе на вуліцу, выпраўлялі сітуацыю. Перш чым кардынальна змяніць знешнасць, параіцеся са спецыялістамі.

**5. Спецыялісты, якія не адпавядаюць часу.**

Адна справа, калі вы трапілі да візажыста з вялікім імем, які ведае модныя тэхнікі; наведвае дарагія семінары, дзе вывучае навейшыя тэндэнцыі, праходзіць курсы павышэння кваліфікацыі. Іншая справа трапіць да візажыста, які вучыўся дзесяць гадоў таму і ўмее толькі тое, чаму навучыўся ў далёкім мінулым. Такі макіяж вам дакладна не спадабаецца і адаб'е ахвоту звяртацца да візажыстаў.

**Калі вы не карыстаецеся макіяжам альбо з вамі быў адзін з пералічаных вышэй выпадкаў, запрашаем на заняткі да Святланы Прадухі ў вучэбны цэнтр "Сфера прыгажосці". Мы дапаможам палюбіць макіяж на 100%.**



На карціне Барыса Цітовіча "Шлях з вайны ў мастацтва" выкарыстаныя сапраўдныя кавалкі гранаты і калючы дрот. Фота Алены СТРЭЖ.

# Карціна, прысвечаная Страмінскаму, ёсць у вілейскім музеі

ВІЛЕЙКА

**Георгіеўскі кавалер. Мастак, у якога не было ў Беларусі ніводнай выставы. Галоўны герой апошняга фільма "Пасляобразы" знакамітага польскага рэжысёры Анджэя Вайды. Усё гэта пра Уладзіслава Страмінскага, чалавека, лёс якога быў звязаны з Вілейкай.**

У экспазіцыі "Дзве вайны – памяць адна" Вілейскага краязнаўчага музея ёсць карціна "Шлях з вайны ў мастацтва". Яе намаляваў і падарыў музею **Барыс Цітовіч** – мастак, для якога захаванне памяці пра Першую сусветную сталаці не асноўнай справай жыцця.

На карціне – змучаны мужчына з мыліцай у форме вайскоўца Першай сусветнай, а побач – сястра міласэрнасці, якая трымае на далоні кавалачак гранаты тых часоў.

Мужчына – мастак Уладзіслаў Страмінскі, сястра міласэрнасці – **Кацярына Кобра**. Гэта жанчына даглядала Страмінскага пасля цяжкага ранення ў Прохараўскім шпіталі ў Маскве. Пасля стала яго жонкай і далучыла мужа да мастацтва.

### Барыс Цітовіч – пра вайскоўца і мастака Страмінскага

Мастак Барыс Цітовіч распавёў, што пра асобу Уладзіслава Страмінскага даведаўся не так даўно. У Польшчы я не быў, кажа Барыс Барысавіч, у Беларусі пра творчасць мастака доўгі час нічога не расказвалі.

Адкрыццём для Барыса Цітовіча стала публікацыя ў часопісе "Мастацтва", дзе распавядалі пра жыццё і творчасць Уладзіслава Страмінскага.

– Гэта асоба вельмі ўразіла мяне тады, – кажа Барыс Барысавіч. – У ім – сіла і вайскоўца, і хрысціяніна. Я даўно працую з тэмай Першай сусветнай вайны, але тады ўпершыню даведаўся, што Страмінскі, тады яшчэ не мастак, а сапёр, браў удзел у абароне крэпасці Асавец на тэрыторыі сённяшняй ўсходняй Польшчы.

Ён быў сярод 60 чалавек, якія выжылі там пасля нямецкай атакі і траўлення газам. Страмінскі ўзяў на сябе камандаванне гэтай невялікай групай. Тады, па словах Барыса Цітовіча, будучы мастак праявіў сябе як вайсковец.

А вось пад Валожынам, недалёка ад Пяршаяў, ён здзейсніў ужо сапраўдны ўчынак. Малады салдацік-шарагоавец, падначалены Страмінскага, няўдала кінуў гранату. Яна абавязкова б пакалечыла ўсіх салдат у акопе. Але Страмінскі, заўважыўшы гэта, накрыў гранату сабой.

У выніку салдаты ўраталіся. А афіцэр стаў калекам. Яму ампутавалі правую нагу і левае перадплечча. Выбух таксама пашкодзіў вока.

### Кавалкі гранаты і калючы дрот на карціне – сапраўдныя

Барыс Барысавіч расказаў пра Уладзіслава Страмінскага як пра пачынальніка плыні "унізм" у мастацтве. Унізм – гэта ўніверсальнае выкарыстанне матэрыялаў у пабудове вобраза карціны. Мастак звяртаецца не толькі да фарбаў і палатна, а дадае шкло, метал, дрэва.

Менавіта ў такой тэхніцы і створаная карціна Барыса Цітовіча "Шлях з вайны ў мастацтва". Уверсе – яркі пейзаж: неба, аблокі, каласы. Па словах Цітовіча, гэта фрагмент карціны Страмінскага.

Далей – шэра-карычневы фон, на якім размешчаныя галоўныя героі. Металічны прамавугольнік, што трымае на далоні Кацярына Кобра, – сапраўдны кавалак гранаты Першай сусветнай. Менавіта на гранаце гэтай мадэлі падарваўся на Валожыншчыне афіцэр Уладзіслаў Страмінскі. Такія прамавугольнікі "раскіданыя" па ўсёй карціне.

У гэтым творы Барыс Цітовіч выкарыстаў і сапраўдны калючы дрот.

Па словах Барыса Барысавіча, плынь унізму блізкая яму. Стварыць карціны ў такім накірунку ён спрабаваў, яшчэ не ведаючы пра мастака Страмінскага. Эксперыментаваў з дрэвам і металам.

Старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава** лічыць, што Уладзіслаў Страмінскі – фігура важная і значная для Вілейшчыны.

Менавіта ў Вілейцы, па словах жанчыны, ён пачаў ствараць свой вядомы цыкл малюнкаў "Заходняя Беларусь".

Сёння ля кінатэатра "Мір" стаіць скульптурная кампазіцыя – якая ілюструе фрагмент з гэтага цыкла. Яна з'яўляецца адзіным помнікам мастаку на Беларусі.

Захаваўся і будынак, дзе ў 1923-1924 гадах мастак выкладаў малюнак. Сёння гэта Цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. А ў 1920-я гады тут месцілася гімназія імя Генрыка Сянкевіча.

**Даведка "РГ". *Уладзіслаў Страмінскі***
нарадзіўся 21 лістапада 1893 года ў Мінску ў сям'і вайскоўца. У 1904 годзе паступіў у кадэцкае вучылішча імя Аляксандра II у Маскве, якое скончыў у 1911 годзе. Тады ж паступіў у Ваеннае інжынернае вучылішча, якое скончыў у 1914 годзе з воінскім званнем інжынернага падпаручніка.
У час Першай сусветнай вайны прымаў удзел у ваенных аперацыях на тэрыторыі сучасных Польшчы і Беларусі.
У 1916 – 1917 гадах вывучаў гісторыю мастацтва. Працаваў у Смаленску і Вільні.
У 1923 – 1924 гадах жыў і працаваў у Вілейцы.
Увосень 1931 года Страмінскія пераехалі ў Лодзь, стварылі ў гэтым горадзе музей сучаснага мастацтва, аб'яднаўшы вакол сябе аднадумцаў.
У 1939 годзе Страмінскія зноў вяртаюцца ў Вілейку, дзе пражывуць амаль да лета 1940 года
У маі 1940-га Страмінскі, адчуўшы небяспеку ад магчымых савецкіх рэпрэсій, з сям'ёй вяртаецца ў Лодзь. Тут у 1951 годзе памёр і пахаваны.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Пераможца конкурсу "Дзясятачка" расказаў пра газету "Дзясятка"

ВІЛЕЙКА

**У адным з тураў нашага конкурсу "Дзясятачка" перамог вучань Вілейскай школы-інтэрната Аляксандр Ганаровіч. Журналістка "Рэгіянальная газеты" ўручыла Аляксандру сувеніры ад рэдакцыі.**

Саша ўжо ведаў пра тое, што ён перамог у адным з прамежкавых тураў. Прачытаў пра гэта ў "Рэгіянальнай газеце". Таму журналістаў чакаў.

Саша вучыцца ў 10 класе. У ягоным класе 14 чалавек: 12 хлопцаў і 2 дзяўчыны.

Шчаслівай для вучня стала "дзявятка" па рускай літаратуры. Яе хлопцу паставіла настаўніца **Ірына Фёдарава**. Саша памятае, што добрую адзнаку атрымаў за твор "Гора ад розуму" Аляксандра Грыбаедава.

Паўдзельнічаць у конкурсе Сашу параіла выхавальніца **Іна Альфер.**

Хлопец расказаў, што ў яго гуманітарны склад розуму. Падабаюцца руская і беларуская мовы і літаратуры, нямецкая мова.

Па словах школьнага псіхолага **Юліі Ціхончанкі**, Саша актыўны і старанны хлопец, часта атрымлівае добрыя адзнакі. Калі дзесяцікласнік адправіў свой бланк на конкурс "Дзясятачка", за яго перажывалі многія настаўнікі.

Разам са сваімі аднакласнікамі раз у чвэрць Саша выдае газету "Дзясятка". Тут юныя журналісты пішуць пра цікавыя і значныя падзеі, якія адбыліся ў класе за чвэрць, змяшчаюць інтэрв'ю і фотаздымкі. Над апошнім нумарам газеты "Дзясятка" Саша працаваў як фотакарэспандэнт.

Аксана ЯРАШОНАК.




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Дзесяцікласнік Саша Ганаровіч добра вучыцца і выдае школьную газету.

## Прэзентацыю кнігі Уладзіміра Садоўскага "1813" зладзяць 25 лістапада

МАЛАДЗЕЧНА

25 лістапада ў 20:00 на пляцоўцы "RED BAR" (вул. Валынца 12-б, к.2) адбудзецца прэзентацыя кнігі "1813" маладзечанскага аўтара Уладзіміра Садоўскага.

"1813" – гэта першы зомбі-хорар, напісаны па-беларуску. Дзеянне кнігі адбываецца на Маладзечаншчыне, галоўны герой – кампазітар і дыпламат Міхал Клеафас Агінскі. Ён напрыканцы зімы 1813 года прыязджае да свайго дзядзькі ў замак каля мястэчка Маладзечна. З надыходам адлігі на навакольных палях паўстаюць французскія жаўнеры-зомбі, забітыя ў адну з апошніх бітваў вайны 1812 года. Агінскі вымушаны ўзяцца за зброю, каб бараніць родны край ад жудаснай навалы.

Сродкі на выданне "1813" сабралі праз інтэрнэт на краўдфандынг-пляцоўцы ULEJ.BY – любы мог унесці такую суму на праект, якую лічыў патрэбным. 1 лістапада стартавалі продажы электроннай кнігі на партале kniharnia.by.

Аддзел інфармацыі.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ВАЗ-2163, 1990 г.в, 1,6 бензін. Вілейка. Т. (8-029) 1144961.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- ЗІЛ-130, дызель, Д245, самазвал-сельгаснік, доўгі кузаў, добры стан. Т. (8-029) 8777563.
- Івека-4910, 1998 г.в, эвакуатар, 14 000 руб, торг. Т. (8-029) 6671145.
- Опель-Вектра, 1991 г.в, 1,6Б, па запчастках, ёсць усё. Т. МТС (8-029) 8575748.
- Опель-Вектра, 2001 г.в., 2,0 TДІ, серабрысты седан. Т. (8-029) 5023219.*
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Меган-Сцэнік, 1997 г.в, 1,6 бензін, добры стан, тэрмінова, 4000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 2629063.
- Рэно-Кліа, 1994 г.в, 1,4Б, па запчастках. Т. МТС (8-029) 8575748.
- Сітраэн-Ксара, 2000 г.в, 2,0 бензін, універсал, колер графіт, эл/пакет, 5300 руб. Вілейка. Т. (8-029) 8576731, (8-044) 4980212.
- Аўташыны зімовыя, 2 шт. (Белшына R15 205/65). Т. (8-033) 3985912.*
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- Гума R17 235/60 зіма, выдатны стан. Т. (8-029) 5519902.*
- Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.
- Рухавік 220В, 3000 абаротаў у хвіліну, 3 кВт, новы. Т. МТС (8-029) 2547336.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 1 паверх. Т. (8-033) 6333225.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 64/41 кв.м, зручная планіроўка. Т. (8-01592) 26884, (8-025) 7807369.
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Крынічнай, 25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж ГБК "Ізбіно". Т. (8-029) 5761877.
- Гараж у ГК-12 у Маладзечне. Т. (8-029) 3107024.*
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом новы жылы ў Маладзечне, раён Ф. Скарыны. Т. (8-029) 6606629.
- Дом у Маладзечне. Т. (8-029) 2608541.*
- Участак 0,1028 га. Мінская вобл., Маладзечанскі раён, Лебедзеўскі с/с, СТ "Асанава". Пачатковае будаўніцтва (фундамент, каробка). Святло, газ па вуліцы. Без даўгоў. Т. (8-0176) 541864, (8-033) 6679478, (8-029) 6269478.*

### МЯНЯЮ

- 1,5-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую па вул. Ясінскай у Маладзечне, 3 паверх 5-павярховага дома, жылая плошча 18,9 кв. м, прыхожая 10,33 кв.м, кухня 6,6 кв.м, лоджыя 6 м. Усюды шклопакеты. Кватэра ў добрым стане. Т. (8-0176) 738233, (8-029) 1605944.*

### ЗДАМ

- Павільён у Вілейцы па вул. Гагарына,12. Т. (8-029) 3247250.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Агульнабудаўнічыя работы, рамонт даху. ІП Вольскі П.П. УНП 691888641. Т. (8-029) 6764425.*
- Выканаем ўсе віды ўнутраных і вонкавых аддзелачных работ. ІП Балуш І.І. УНП 691181095. Т. (8-029)5156643, (8-029) 5671859.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, усталёўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*







**Тэлефонныя коды**

| | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Чалавека, якога выцягнулі з вады, абгарніце поліэтыленам, яму стане цяплей

## Як дапамагчы, калі чалавек праваліўся пад лёд

МАЛАДЗЕЧНА

**У 2015 годзе патанулі 14 чалавек: 11 падчас падлёднай рыбалкі, трое пры гульнях на лёдзе і пераходах, двое з іх дзеці. У пачатку 2016 года падчас падлёднай рыбалкі патанулі дзесяць чалавек.**




**Штогод зімой падчас лоўлі рыбы ў краіне гіне 80-90 чалавек, большасць з іх, каля 80%, знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення**

Перад надыходам зімы таварыства выратавання на водах нагадвае правілы бяспекі:

1. Перш чым сысці з берага, праверце трываласць лёду палкай, а не ўдарамі нагі. Выходзьце на лёд, дзе мелка.

Надзейны лёд – празрысты, з зеленаватым адценнем, таўшчынёй не менш за сем сантыметраў. Лёд малочнага або белага колеру ўдвая слабейшы. Самы небяспечны – з зазубрынамі, са снегу, які змёрзся.

2. Будзьце асцярожныя ў месцах, пакрытых тоўстым слоем снегу, у месцах хуткага цячэння і выхаду крыніц, каля кустоў, травы, у месцах скідвання вады прамысловымі прадпрыемствамі. Будзьце асцярожныя пры пераходзе ракі ніжэй плаціны. Там стан лёду вельмі мяняецца, часам праз дзве-тры гадзіны немагчыма вярнуцца па сваім следзе.

3. Не выходзьце на лёд у адлігу.

4. Калі вам неабходна перайсці небяспечнае месца, абвяжыцеся шнуром, пакінуўшы за сабой канец, на якім павінны знаходзіцца іншы чалавек.

6. Калі вы не ведаеце асаблівасцяў вадаёма альбо ўмоў утварэння лёду, не выязджайце на яго на машыне.

7. Першы лёд вельмі слізкі, таму можна ўпасці і атрымаць розныя траўмы. Калі абутак слізкі, ідзіце дробнымі крокамі, па магчымасці не адрывайце ног ад паверхні лёду. Трымайцеся ўчасткаў, прыпарушаных снегам – гэта змяншыць слізгаценне.

### Калі праваліліся пад лёд

1. Шырока раскіньце рукі ў бакі па краях лёду, старайцеся не абломваць іх.

2. Без рэзкіх рухаў паспрабуйце выбрацца на трывалы лёд: запаўзайце грудзьмі, старайцеся закінуць ногі. Адпаўзайце ад небяспечнага месца і клічце на дапамогу.

3. Калі ёсць нож (вострыя прадметы), старайцеся зачапіцца імі далей ад месца правалу. Асцярожна закідвайце адну нагу на лёд і перакочвайцеся на спіну, выбіраючыся з палонкі.

**Без сур'ёзных наступстваў для здароўя можна вытрываць у ледзяной вадзе да 5-7 хвілін.**

### Калі вы дапамагаеце пацярпеламу

1. Набліжайцеся да яго паўзком, абапірайцеся на дошку, лыжы альбо жэрдку.

2. Калі дасягнулі дастатковай адлегласці, кіньце пацярпеламу канец вяроўкі. Драўляныя прадметы піхайце па лёдзе да месца пралому. Не падпаўзайце да краю палонкі – можаце самі аказацца ў вадзе.

3. З пацярпелага зніміце адзенне. Калі няма сухога, выкруціце тое, што знялі, пасля надзеньце.

4. Чалавека, якога выцягнулі з вады, абгарніце поліэтыленам, ад гэтага становіцца цяплей.

**Чалавек, які трапіў у ледзяную ваду, можа задубець праз 10-15 хвілін, а праз 20 згубіць прытомнасць.**

### Першая дапамога чалавеку, які замярзае

1. Пацярпелага адняціце ў прахалоднае памяшканне.

2. Вымытымі рукамі разатрыце яго цела.

3. Калі пасля гэтага пацярпелы не праяўляе прыкмет жыцця, зрабіце штучнае дыханне. Хутчэй звярніцеся па медыцынскую дапамогу.

4. Калі пацярпелы прыйшоў у прытомнасць, цёпла ўхутайце яго, сагрэйце, дайце гарачае піццё.

**Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ,**
**кіраўнік маладзечанскай раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах.**

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Канцэрт сімфанічнага аркестра для моладзі адбыўся ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Адзін з канцэртаў сацыяльна арыентаванага творчага праекта для дзяцей і моладзі "Дакрананне" прайшоў у Палацы культуры 21 лістапада.**

Сацыяльны праект накіраваны на далучэнне юных слухачоў да класічнай музыкі. У выкананні сімфанічнага аркестра Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і салістаў ансамбля Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры акадэміі прагучалі творы **Пятра Чайкоўскага**, **Жоржа Бізэ**, **Арама Хачатурана**, **Уладзіміра Алоўнікава**, **Георгія Гладкова** і іншых кампазітараў. Таксама гучала і музыка з папулярных кінафільмаў ("Зоркавыя войны", "Піраты Карыбскага мора", "Ружовая пантэра"). З дапамогай відэа гледачы змаглі нават апынуцца на балеце "Лебядзінае возера" і ўбачыць знаёмы мультфільм "Брэменскія музыканты", песню з якога потым спявалі ўсе разам.

У гэты дзень школьнікі атрымалі сапраўдную эстэтычную асалоду для слыху, магчымасць дакрануцца да музычнага мастацтва, а, галоўнае, зразумець, што акрамя сучаснай музыкі, папсы і рэпа, ёсць нешта іншае.

– Не спадзявалася, што сімфанічны канцэрт выкліча ў мяне такія ўражанні, – прызнаецца вучаніца сярэдняй школы №12 **Таццяна Сак**. – Невыказная атмасфера, цудоўная музыка, прафесійныя выканаўцы!

**Ірына БУБНОВА,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Сустрэча з чалавекам, які як дзве кроплі вады падобны на цябе

МАЛАДЗЕЧНА

У адным з гарадскіх клубаў праходзіла ўдакладненне запісаў у ваенных білетах афіцэраў запасу (афіцэрскіх кніжках). Работнік ваенкамата назваў маё прозвішча. Падыходжу да стала і разам са мной падыходзіць яшчэ адзін чалавек, вельмі на мяне падобны. Амаль двайнік.

Пакуль афіцэр ваенкамата разбіраецца з нашымі дакументамі, паспяваем перакінуцца словамі і пазнаёміцца. Ён аказваецца родам з Валожынскага раёна. А цяпер жыве і працуе ў Маладзечне. І тут я ўспамінаю, што калі вучыўся ў Дубраўскай школе, то хлопцы родам з вёсак Сасноўцы, Залессе, Гінявічы казалі, што ў іх ёсць хлопец з такім жа як у мяне прозвішчам і вельмі на мяне падобны.

Да таго часу я ўжо ведаў сямейную гісторыю. Мой дзед Пётра загінуў у родных Навасёлках у час баёў перад усталяваннем мяжы ў 1922 годзе. Удавой засталася бабуля Дамініка з дзецьмі. У адной хаце жылі яшчэ два браты загінулага Пятра і яго сястра. Сям'я валодала зямельным надзелам. І вось адзін з братоў сабраўся жаніцца, але з выдзяленнем яго долі зямлі. Жаночы савет у складзе бабулі Дамінікі і сястры Пятра вырашае: жаніся, але каб жыў на агульнай зямлі і гаспадарцы. Той злуецца, ідзе ў прымы да той дзяўчыны на Валожыншчыну і назаўсёды парывае ўсе зносіны з роднымі.

Пры прыняцці рашэння жанчыны нават не ўлічылі меркаванне яшчэ аднаго брата. Яны лічылі, што з яго за толк, кульгавы, непаўнацэнны работнік. Знае толькі іграць на сваёй скрыпцы на сваю ўцеху і па запрашэнні на вяселлях.

Гэта нечаканая сустрэча – як адгаласак і напамін пра тыя падзеі. Атрымоўвалася, што ў нас з гэтым хлопцам нашы дзяды былі роднымі братамі.

Які, аказваецца, цесны гэты свет і як у ім усё пераплецена.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна.**

# Маршалкоўскія школы былога Ашмянскага павета

*Заканчэнне. Пачатак у №46, 47.*

**АШМЯНЫ**

**Упершыню пра так званыя "школы Пілсудскага" мне прыйшлося даведацца з дзённіка "Лісткі календара" Максіма Танка.**

Паважаны паэт 12 мая 1936 года зрабіў наступны запіс: "Урад з нагоды пахавання сэрца Пілсудскага пастанавіў пабудаваць на "ўсходніх крэсах" сто школ імя маршалка – сто новых гнёзд паланізацыі... Аб асвеце тут гаварыць не даводзіцца".

Вядома, што толькі да верасня 1939 года гэтыя школы былі звязаныя з былой Польскай дзяржавай і яе палітыкай у дачыненні да нашых зямель, пра якую і ўзгадваў Максім Танк. А як жа склаўся лёс гэтых школ у далейшым, як яны вытрымалі выпрабаванні часам?

### Гудагайская школа

Як было адзначана раней, Гудагайская школа трапіла ў межы сённяшняга Астравецкага раёна. У час пошуку звестак пра лёс установы добры знаўца мінулага гудагайскай старонкі **Казімір Ковель** паведаміў, што школьныя пабудовы размяшчаліся ў зручным месцы побач з касцёлам, сама школа мела два ўваходы з калонамі і адзін галоўны ўваход, нагадвала ў плане літару "Г".

Пад адным дахам утрымлівалася кватэра для дырэктара і жыллё для настаўніка. Каля школы была ўзведзеная гаспадарчая пабудова, так званая "драўлянка", дзе захоўваліся дровы для абагрэву памяшканняў і іншая школьная драбяза, пабудаваная прыбіральня. Да школы вёў бетонны тратуар, які абсадзілі ў той час маладымі дрэўцамі. Што цікава: у Гудагаі даволі глыбока да падземных вод, і каля касцёла была ўсяго адна калонка на ўсё паселішча, то школа карысталася вадой з калонкі. Магчыма, гэта адзіны прыклад, калі не выкапалі студню на падворку новай навучальнай установы.

Пасля вайны школа ўзнавіла працу, але з цягам часу, з-за невялікай колькасці дзяцей, была закрытая. Сёння яна належыць сёстрам-кармеліткам і ў сучасным знешнім выглядзе захоўвае першапачатковы свой воблік.




Фота забяспечанае Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Суцькаўская школа.

### Лёс школ

Вогненная віхура апошняй вайны парушыла не толькі мірнае жыццё жыхароў Смаргоншчыны, але не пашкадавала мясцовыя ўстановы асветы. Дашчэнту былі спаленыя школы ў Сукневічах і Кавалях. Такі лёс чакаў і Суцькаўскую школу. Дзякуючы заступніцтву тагачаснага настаўніка школы Д. Даўнаровіча яна была выратаваная.

Як адзначана ў гісторыка-дакументальнай кнізе "Памяць" Смаргонскага раёна: "Калінікалі ў будынку школы заставаліся на начлег фашысты і літоўскія паліцаі. Аб гэтым даведаліся партызаны і рашылі ўзарваць і спаліць школу. Настаўніку ўдалося пераканаць партызан, што школа ў гэтым невінаватая і пасля выгнання немцаў будзе патрэбная дзецям".

**У далейшым Суцькаўская сярэдняя школа да свайго закрыцця ў 2007 годзе з'яўлялася вядомым адукацыйным цэнтрам гэтага рэгіёна. Сёння школьныя будынкі належаць прыватнаму прадпрыемству па вырабе мэблі.**



Фота забяспечанае Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Граўжышкаўская школа, сучасны стан.

У 1986 годзе перастала існаваць Вішнёўская няпоўная сярэдняя школа. Яе частка некаторы час была прыстасаваная пад жыллё. Як сышлі людзі, пачаўся паступовы занапад школьнага будынка, і цяпер ён знаходзіцца ў вельмі занядбаным стане.

На лёс школ паўплывалі падзеі апошняй вайны, імклівая ўрбанізацыя і скарачэнне вясковага насельніцтва. Пабудовы не вытрымалі выпрабаванне часам. Але застаюцца ў памяці старэйшага пакалення, з'яўляюцца часткай нашай агульнай спадчыны, пра якую мы павінны ведаць.

**Уладзімір ПРЫХАЧ.**

---

**КАЛЯНДАР**

**25 ЛІСТАПАДА**

**80 гадоў** з дня нараджэння Віктара Турава (1936 – 1996), кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі.

**26 ЛІСТАПАДА**

**125 гадоў** з дня нараджэння (1891) Янкі Станкевіча (в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён), грамадска-культурнага дзеяча, мовазнаўцы, гісторыка, перакладчыка, выдаўца, публіцыста, педагога, дзеяча эміграцыі ў Германіі і ЗША.

**1896** год. Памёр Канстанцін Ельскі, падарожнік, заолаг, географ, геолаг.

**27 ЛІСТАПАДА**

**105 гадоў** з дня нараджэння Міколы Лобана (1911 – 1984), пісьменніка і мовазнаўцы, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**1 СНЕЖНЯ**

**Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу.**

**1856 год.** У будынку бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта Яўстах Тышкевіч адкрыў музей старажытнасцяў.

**3 СНЕЖНЯ**

**Міжнародны дзень інвалідаў. Дзень інвалідаў РБ.**

***

**95 гадоў** назад (1921) у Заходняй Беларусі ў Радашкавічах заснаванае Таварыства беларускай школы (дзейнічала да 1937 года).

**195 гадоў** назад у Радашкавічах нарадзіўся Юльян Гарайн (1821-1883), пісьменнік-падарожнік, сябар Дуніна-Марцінкевіча, аўтар кніг прозы "Страчаныя хвіліны", успамінаў пра Уладзіслава Сыракомлю "З жыцця паэта". З 1870-х гадоў жыў у ЗША, блізка сябраваў з Генрыкам Сянкевічам і працягваў літаратурную дзейнасць.

**235 гадоў** з дня нараджэння (1781 – 1855) Антона Марціноўскага, выдаўца і публіцыста. Нарадзіўся ў Радашкавічах, скончыў Мінскую гімназію і Віленскі ўніверсітэт. Адзін з арганізатараў Віленскага друкарскага таварыства і літаратурна-грамадскага аб'яднання шрубаўцаў. Члены гэтага аб'яднання выказваліся за прыватныя рэформы, грамадскую роўнасць народаў, выступалі супраць цемрашальства і забабонаў. Быў рэдактарам іх часопіса "Вулічныя навіны", газеты "Літоўскі веснік", першага на Беларусі навуковалітаратурнага часопіса "Віленскі дзённік". Заснаваў прыватную друкарню, у якой выйшла звыш 400 назваў кніг па розных галінах ведаў. А яшчэ быў адным са складальнікаў "Збору старажытных грамат гарадоў: Вільні, Коўна, Трокаў..."

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Ці патрэбны мабільнік школьніку: слухаем доктара, педагога, псіхолага, бацькоў і саміх вучняў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**– Мама, мне сорамна, бо я сёння ў класе дзяўчынку падманула. Яна папрасіла мой мабільнік, каб пагуляць, а я сказала, што ў ім батарэя села. Не таму, што мне шкада. Проста ў нас у школе мабільнікамі карыстацца не дазваляюць. Я яго дастаю вельмі рэдка, толькі калі табе патэлефанаваць трэба.**

Такая споведзь упласнага дзіцяці падштурхнула заняцца тэмай "мабільнікі ў школе". Ці забараняюць дзецям карыстацца мабільнымі тэлефонамі ў школах нашага рэгіёна? Наколькі мабільнікі перашкаджаюць навучанню? Што думаюць на гэты конт самі вучні, настаўнікі, спецыялісты? І калі раптам мабільнік у школе згубіцца, хто павінны несці адказнасць?

### Гуляеш у мабільнік на ўроках – бацькі забяруць тэлефон у кабінеце дырэктара

У Ільянскай школе на Вілейшчыне мабільнікі не забароненыя. Але тут ёсць дакумент, дзе прапісана, што школа не нясе адказнасці за мабільнікі, планшэты, калонкі і іншыя падобныя рэчы, якія вучні прыносяць з сабой на ўрокі.

Па словах намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце **Людмілы Мікуліч**, на агульнашкольных сходах бацькам кожны раз нагадваюць пра гэта і просяць не даваць дзецям у школу мабільныя тэлефоны і планшэты, якія каштуюць дорага. Калі ўжо без мабільніка ніяк, то дастаткова самай простай і таннай мадэлі, каб дзіця магло звязацца з бацькамі, упэўненая намеснік дырэктара.

Хоць дакументальна педагогі школы і не адказваюць за дарагія рэчы, усё ж калі мабільнік губляецца, яго шукаюць усе, пачынаючы ад намесніка дырэктара і заканчваючы класным кіраўніком. Як прызналася Людміла Мікуліч, і апытанне аднакласнікаў праводзяць, і рэчы правяраюць. Гэта пры тым, што ў настаўнікаў і так працы дастаткова.

Але часцей здараецца так, што вучні губляюць мабільнікі самі. Намеснік дырэктара прыгадала такі выпадак. Некалі зімой у дзяўчынкі ў школе знік тэлефон. Бацькі напісалі заяву ў міліцыю. Супрацоўнікі органаў прыходзілі ў школу, разам з адміністрацыяй праводзілі работу. А калі прыйшла вясна і сышоў снег, зніклы тэлефон знайшлі на клумбе ў школьным двары.

Бывала і так, што зніклыя мабільнікі знаходзілі ў туалеце. І немагчыма было высначыць, ці вучань сам яго там забыўся, ці нехта падкінуў, пачуўшы, што пачаліся пошукі.

Карыстацца мабільнікамі ў час урокаў, вядома, нельга. Калі ж вучні ні на забарону, ні на заўвагі настаўніка не рэагуюць, тады мабільнік забіраюць і замыкаюць у сейфе ў кабінеце дырэктара. Забраць дарагую рэч могуць толькі бацькі. Але прафілактычнай гутаркі ў кабінеце дырэктара ім не пазбегнуць.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Мабільнік трэба, каб гуляць у анлайн-гульні, знаходзіцца ў сацыяльных сетках, шукаць інфармацыю ў інтэрнэце і быць на сувязі.

### Псіхолаг: для дзяцей да 7-8 класа дастаткова звычайнай "званілкі"

Мабільны тэлефон трэба для таго, каб мы не хваляваліся за сваё дзіця. Так кажуць шматлікія бацькі.

Сёння школьнікі карыстаюцца мабільнікамі, каб гуляць у анлайн-гульні, знаходзіцца ў сацыяльных сетках і шукаць інфармацыю ў інтэрнэце. А для званкоў тэлефон патрэбны дзецям у апошнюю чаргу, упэўненая псіхолаг з Вілейшчыны **Алеся Сэсарава.**

Дзеці шмат інфармацыі атрымліваюць у школе ад настаўніка. Да гэтага дадаецца інфармацыя з інтэрнэта. У выніку школьнікі перагружаныя рознымі звесткамі. Ад гэтага церпяць памяць, увага, мысленне.

Вучні становяцца раздражняльнымі, плаксівымі, рассеянымі, з цяжкасцю запамінаюць нават невялікую інфармацыю на ўроках, не могуць разважаць.

Псіхолаг лічыць, што для дзяцей да 7-8 класа дастаткова самай простай "званілкі" для сувязі з роднымі і сябрамі. Такі тэлефон не будзе спакушаць дзяцей адрывацца ад урокаў у школе і ад выканання дамашняга задання.

А для пошуку неабходных звестак інтэрнэт трэба выкарыстоўваць пад наглядам бацькоў з абавязковым абмежаваннем часу, не больш за адну гадзіну.

У старшакласнікаў у сацыяльных сетках віруе віртуальнае жыццё і віртуальныя зносіны. Ім важна абмяжоўваць знаходжанне ў сацыяльных сетках, мабільныя гульні. У час урокаў і выканання дамашніх заданняў ніякай гаворкі пра карыстанне мабільнікам быць не можа. А вось за зварот да розных мабільных дадаткаў са слоўнікамі і даведнікамі старшакласнікаў можна нават пахваліць.

На думку Алесі Сэсаравай, рашучыя дзеянні бацькоў па абмежаванні карыстання тэлефонамі могуць выклікаць пратэст і агрэсію дзіцяці. Аднак праз пэўны час гэта прывядзе да актыўнага "рэальнага" жыцця, паляпшэння пазнавальных працэсаў і паспяховасці ў школе.

### Доктар-педыятр: дрэнны ўплыў радыёхваляў ад мабільніка дастаткова не даказаны

Педыятр з Маладзечна **Ірына Беларусец** распавяла, што розныя радыевыпраменьванні, якімі палохаюць карыстальнікаў тэлефонаў, не маюць дастатковых доказаў. Гэта ўсё замежныя даследаванні, якія часта супярэчаць адно другому.

Аднак дакладна можна сказаць, што празмернае карыстанне школьнікаў мабільнымі тэлефонамі пагражае дзецям скаліёзам і пагаршэннем зроку. Ад вялікай захопленасці гульнямі педыятры назіраюць у школьнікаў нервовыя цікі і гіперузбуджальнасць.

### Вучань 9 класа: нашто мне ў школе мабільнік? Толькі вучыцца перашкаджае

Шматдзетная мама з Маладзечна **Марыя Бельская** лічыць, што мабільны тэлефон патрэбны дзіцяці ў школе. Ва ўсялякім разе сваім дзяўчынкам-школьніцам тэлефоны яна дае. Кажа, на ўроках карыстацца не дазваляюць, акрамя сур'ёзных патрэб, для якіх тэлефоны і даюцца. На перапынках, па словах дзяцей, карыстацца мабільнікамі можна.

Адзінаццацікласніца з Ілы **Марыя Кіпель** прызналася, што мабільнік у школу бярэ заўсёды. Але для дзяўчыны – гэта ўсё ж сродак сувязі, а не цацка. У тэлефоне Марыі ёсць доступ да інтэрнэта. А там, па словах дзяўчыны, можна знайсці дадатковую інфармацыю па прадметах. За гэта настаўнікі хваляць.

А вось дзявяцікласнік з Куранецкай школы **Валеры Дзік** прызнаўся, што мабільнік мае, але ў школу з сабой не носіць. Навошта ён мне, не разумее хлопец, толькі вучыцца перашкаджае. І Валеры не адзін такі. Некаторыя аднакласнікі таксама прыходзяць у школу без мабільных тэлефонаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Перанесці пачатак урокаў на 9 гадзін раніцы змогуць школы разам з бацькамі

**Рашэнне пра час пачатку вучэбных заняткаў школы прымаюць самастойна разам з бацькоўскімі камітэтамі.**

Пра гэта заявіў у інтэрв'ю праграме "Галоўны эфір" на тэлеканале "Беларусь 1" міністр адукацыі **Міхаіл Жураўкоў**, адказваючы на пытанне пра магчымасць пераносу пачатку вучэбных заняткаў у школах на 9 раніцы.

"Рашэнне пра тое, калі пачынаць заняткі, прымае педагагічны калектыў школы сумесна з бацькоўскім камітэтам, – растлумачыў ён. – Такім чынам школы самастойна разам з бацькамі вызначаюць, калі павінны пачынацца навучальныя заняткі".

Па словах Міхаіла Жураўкова, Мінадукацыі правёў чарговы маніторынг у школах, каб сабраць поўную інфармацыю па гэтым пытанні. "Мы яшчэ раз правялі маніторынг пачатку заняткаў у школах. Калі ўзяць школы, дзе дзеці займаюцца толькі ў першую змену, то адна трэціна з іх, або 30%, дзе заняткі пачынаюцца ў 8:00-8:15. У 40% школ заняткі пачынаюцца ў 8:15-8:30. І яшчэ 30% школ, дзе заняткі пачынаюцца ў 8:30-9:00 раніцы", – праінфармаваў ён.

У школах, дзе ёсць другая змена, пераважае пачатак навучальных заняткаў у 8:00-8:30.

"Тут жорсткія рамкі абмежаванняў, таму што другая змена ў іх павінна пачынацца не пазней за 14:00 і заняткі павінны заканчвацца ў 19:30", – рэзюмаваў Міхаіл Жураўкоў.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага аддзела адукацыі, спорту і турызму **Ірыны Лобан**, пытанне пра перанос урокаў на 9:00 у вілейскіх школах пакуль не падымалі.

Начальнік Смаргонскага аддзела адукацыі, спорту і турызму **Ігар Шчасны** патлумачыў, што на Смаргоншчыне пытанне з пачаткам урокаў ужо даўно ўрэгулявалі. У горадзе заняткі пачынаюцца ў 9:00. У сельскіх школах па-рознаму: у 8:15, у 8:30, у 9:00.

Па словах Ігара Шчаснага, большасць бацькоў, настаўнікаў і вучняў лічаць гэты час найбольш зручным.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота agrefu.ru

Рашэнне пра час, з якога пачынаць заняткі, могуць прымаць настаўнікі і бацькі.

# Як інтэрнаты прынеслі "Камунальніку" 800 тысяч страт

МАЛАДЗЕЧНА

**"Круглы стол" па тэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі адбыўся ў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" 17 лістапада.**

На ім удзельнічалі начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Маладзечанскага райвыканкама **Сяргей Бохан** (СБ), намеснік дырэктара УП "Камунальнік" па жыллёвых пытаннях **Алег Глаткі** (АГ), начальнік аддзела субсідзіравання і прыватызацыі жылля УП "Камунальнік" **Сяргей Ракіта** (СР) і жыхар аднаго з маладзечанскіх інтэрнатаў, забудоўшчык РІЗ "Фестывальны" **Сяргей Вярбіцкі** (СВ).

### Ці будуць пераводзіць інтэрнаты ў статус арэнднага жылля?

**СБ**: – Да лістапада 2015 года ў адносінах да дзяржаўнага жыллёвага фонду не было парадку пераводу інтэрната ў жылы дом для арганізацый. Год таму заканадаўча з'явілася такая магчымасць, што па рашэнні мясцовай выканаўчай улады, калі інтэрнат адпавядае характарыстыкам жылога дома, пытанне аб пераводзе ў дзяржаўны жылфонд можа быць разгледжанае.

Па Маладзечаншчыне такое рашэнне не прымалася. Ёсць дзве асноўныя прычыны. Па-першае, інтэрнат павінны быць жылым домам ва ўсіх сэнсах, згодна з тэхнічным рэгламентам. Мы сутыкнуліся з тым, што па бытавых умовах часам можна было б назваць жыллё кватэрай, але па тэхнічнай дакументацыі ў памяшканні зробленыя самавольныя работы. І гэта аўтаматычна не дазваляе прызнаць яго адпаведным тэхрэгламенту.

Такіх у нас паўтары будынкі: інтэрнат па Францішка Скарыны, 20 і палова па Галіцкага. Акрамя тэхнічнага патрабавання, ёсць другое. Інтэрнаты ў Маладзечне цяпер не будуюцца і перспектывы такой няма, а неабходнасць у іх ёсць. І пры пераводзе частка людзей, якая магла атрымаць інтэрнат, яго не атрымае. Здавалася б, хай людзі, якія па дзесяць год жывуць у інтэрнаце, мелі б нешта сваё. Але яны маюць права на льготны крэдыт на будаўніцтва. І некаторыя з іх скарысталіся гэтым правам, толькі працягвалі настойваць на пераводзе інтэрната ў жылы дом. Калі такі перавод будзе, яны пазбавяцца права атрымаць льготны крэдыт.

Любы інтэрнат па горадзе не будзе адпавядаць параметрам кватэры. Калі перавод будзе, усе камунальныя выплаты захаваюцца, плюс дадасца плата за пражыванне ў камерцыйным жыллі.

Па Маладзечаншчыне гэта ўзважаная пазіцыя – у планах няма прыняцця рашэння пераводу інтэрнатаў у арэнднае жыллё.

**"РГ": – Якім чынам будзе задавальняцца патрэба ў інтэрнатах?**

– У нас цяпер будуецца пяць дамоў па дзяржаўным заказе. Шмат людзей, якія там будуюць кватэру. Калі яны перасяляцца, вызваляцца месцы ў інтэрнатах, якія заселяць новыя жыхары.

**"РГ": – Ці ёсць перавагі арэнднага жылля перад інтэрнатам?**

– Для мяне гэта зусім розныя рэчы. Арэнднае жыллё – абасобленае памяшканне, у якім жыве сям'я. Інтэрнат дае агульную кухню, існуе паняцце ложкамесца, у адным памяшканні могуць жыць чужыя людзі. Зразумела, што дэталі могуць адрознівацца ў залежнасці ад планіроўкі. Інтэрнат – жыллё ў больш сціплых умовах, але за меншую плату.

### "Камунальнік": інтэрнаты для нас – невыносны цяжар

**СБ**: – Агульная дзяржаўная палітыка: вызваляць арганізацыі ад няпрофільных актываў. З аднаго боку, аддаём спецыялістам. Калі, напрыклад, узяць інтэрнаты "Энвы", то відаць, што "Камунальнік" прыводзіць іх у належны стан. Гэта станоўчы бок. Але ёсць і адваротны. Ёсць інтэрнаты, якія, на маю думку, выкарыстоўвалі не так, як трэба. Тут маецца на ўвазе іх тэхнічны стан, бягучы і капітальны рамонты. І перадаюцца інтэрнаты без сродкаў для ўтрымання. Пакідаць людзей у такіх умовах немагчыма, даводзіцца пераразмяркоўваць сродкі.

Камунальныя паслугі па інтэрнатах аплачваюцца па тарыфах, якія не пакрываюць затраты. І "Камунальнік" атрымоўвае адвочныя страты. З пачатку года па інтэрнатах мы атрымалі 800 тысяч (8 мільярдаў недэнамінаваных) рублёў страт.

**АГ**: – На сёння ў Мінскай вобласці больш за 20 прадпрыемстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. На балансе гэтых прадпрыемстваў 57 інтэрнатаў. З іх 21 толькі ў "Камунальніка". Уявіце сабе, палова абласнога фонду інтэрнатаў на балансе толькі аднаго прадпрыемства. Гэта для нас невыносны цяжар.

У пачатку года дадзеная лічба, у якую мы павінны ўлазіць па ўтрыманні жыллёвага фонду – 1 150 рублёў да дэнамінацыі (10,15 капейкі) на адзін квадратны метр жылля на тэхабслугоўванне. Гэту суму мы штомесяц і спаганяем з жыхароў праз жыроўкі. Калі па жыллі на сёння мы ўлазім у гэту лічбу, то на 1 метр абслугоўвання інтэрнатаў прыходзіцца каля 80 капеек – 1 рубель. Нескладана ўявіць, якія вялізныя затраты мы нясём. Калі падлічыць, прыкладна колькі кожны жыхар сёння павінны даплачваць, каб проста выходзіць на нуль, то гэта каля 40 рублёў (400 тысяч) ад кожнага зверху. І ўявіце, колькі такіх людзей у 21 інтэрнаце – вось і велізарныя страты.

Кожная перадача інтэрната на наш баланс – вялікі боль. Мы вымываем свае абаротныя актывы, вымываем грошы, якія маглі б выдаткаваць на сваё развіццё, на нашы зарплаты, падаткі і адлічэнні. Сёння мы свае сродкі эканомім максімальна, паніжаючы свой заробак і нават скарачаем работнікаў.

**За два гады штат зменшыўся на 300 чалавек.**

Мясцоваму бюджэту дазволена выдзяляць сродкі на іх рамонт, і, вядома, мы рамантуем інтэрнаты. Пераважна жыхары не адмаўляюцца далучацца грашыма да рамонту ў агульных памяшканнях.

Нават менталітэт пражывання ў інтэрнаце і сваёй кватэры зусім розны. У сябе вы будзеце закрываць кран, гасіць святло, калі яно не трэба ў пакоі. А ў інтэрнатах нярэдка бачыш, як уключаюць ваду, якая ліецца ў каструлю з брудным посудам, а жыхары ідуць глядзець тэлевізар. Цяжка прывучыць, што гэта не бясплатна, гэта грошы кожнага. Тут я выключаю інтэрнат па Скарыны, 20, бо там іншая планіроўка.

У інтэрнатах вялікія калідоры, агульныя пляцоўкі. Калі ў жылым доме гэта невялічкі пад'езд і лесвічныя клеткі, то ў інтэрнаце – вялікія пляцоўкі, якія трэба і ацяпляць, і асвятляць, і мыць, і ахоўваць.

Пры перадачы інтэрнатаў мы сутыкнуліся з тым, што падвалы затопленыя – і гэта звычайная справа, старая праводка, няма пажарнай сігналізацыі, няма абслугоўвання ліфтаў. Нярэдка сутыкаемся з беспарадкам вядзення дагавароў найму.

**Вельмі шмат мёртвых душ, калі ў пакоі жыве трэцяя па ліку сям'я, а прапісаная яшчэ першая. Вялікая запазычанасць, якую трэба спаганяць.**

Заканадаўства не дазваляе нам выселіць чалавека па першым патрабаванні, як гэта бывае за мяжой. У нас высяленні могуць доўжыцца па часе, і для гэтага павінны быць надзвычай важкія прычыны.

У нас чарга на высяленне, і нашы юрысты не спраўляюцца. Калі мы за месяц падаём каля 25 заяў, то трэба было б каля 70, каб больш-менш спраўляцца.

**СБ**: – Вялікую работу вядзём па высяленні менавіта нядобрасумленных жыхароў. Некаторыя з іх дазваляюць сабе не выконваць агульныя для ўсіх патрабаванні.

**АГ**: – Што мы робім адразу пасля прыняцця інтэрната. Пераглядаем, хто дзе жыве, хто прапісаны, якія тэрміны, на якіх падставах. Адразу вылучаем групу, якая дакладна ідзе на высяленне. Пасля ідзе ўшчыльненне. Былі прадпрыемствы, якія выдзялялі на 1-2 чалавек па блоку, а мы сабе гэтага дазволіць не можам.

Праводзім замену абсталявання, у першую чаргу па электрыцы. Пасля – сістэма ацяплення і водазабеспячэння. Затым – падвальныя памяшканні, гарышча, дах. А пасля гэтага канструкцыйныя элементы, якія трэба ўцяпліць ці давесці да ладу.

Але ўсё гэта зрабіць адразу мы не можам. Работа расцягваецца на некалькі год. Напрыклад, з апошніх мы прымалі інтэрнат ад станказавода. І зрабілі там санвузлы, душавыя, якія не працавалі шмат год. Зрабілі нармальныя туалеты, усталявалі пажарную сігналізацыю ў будынку.

**Працяг публікацыі па выніках "круглага стала" – у наступным нумары.**



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Маладзечанскага райвыканкама Сяргей Бохан.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Жыхар аднаго з маладзечанскіх інтэрнатаў, забудоўшчык раёна індывідуальнай забудовы "Фестывальны" Сяргей Вярбіцкі.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Начальнік аддзела субсідзіравання і прыватызацыі жылля УП "Камунальнік" Сяргей Ракіта.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Намеснік дырэктара УП "Камунальнік" па жыллёвых пытаннях Алег Глаткі.




## Адказнасць за сваё цела павінна быць у галаве

МАЛАДЗЕЧНА

**"РГ" сумесна з фітнес-клубам "Тытан" запусціла праект "Зорка з трэнажоркі". Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**



Трэнер Руслан Дунец.

У гэтым нумары мы працягваем гутарку з **Русланам Дунцом**, трэнерам і гаспадаром фітнес-клуба "Тытан", бо пытанні чытачоў, як і пытанні наведнікаў "Тытана", без адказу трэнера заставацца не павінны.

– Працу трэнера, – разважае Руслан, – можна параўнаць з працай скульптара. Спачатку трэнер ацэньвае агульны выгляд чалавека, з кім яму давядзецца працаваць. Потым падбірае пэўную праграму нагрузак, дае парады па харчаванні і аднаўленні. Затым выяўляюцца слабыя зоны, над якімі ідзе больш мэтанакіраваная і сур'ёзная праца.

**– Наша чытачка запыталася, ці можна ў трэнажорнай зале займацца цяжарным жанчынам?**

– Цяжарным займацца можна, але толькі пад наглядам добрага спецыяліста. У працы з цяжарнымі жанчынамі ёсць свая спецыфіка. Трэба сачыць за трыместрамі. Ні ў якім разе нельга дапускаць, каб падчас трэніровак жанчына напружвалася, каб рэзка мянялася становішча тулава, каб пераграваўся плод. Бывала, што ў "Тытане" займаліся цяжарныя жанчыны, але гэта ледзьве не адзінкавыя выпадкі.

**– З кім працаваць прасцей, з навічкамі ці з тымі, хто даўно займаецца і сам яшчэ можа даваць парады, як сябе трэніраваць?**

– Добраму трэнеру насамрэч не прынцыпова, з кім займацца. Што датычыцца асабіста мяне, то мне больш камфортна працаваць з падрыхтаванымі людзьмі, якія толькі па адной назве практыкавання ведаюць, што рабіць. Напрыклад, два разы на месяц да нас прыязджае абсалютная чэмпіёнка Беларусі па фітнес-бікіні **Надзея Будрык**. Я яе трэнірую, а трэніроўкі выкладваем у сеціва, каб усе ахвотныя маглі паглядзець і пазаймацца па праграме чэмпіёнкі.

**– Ці варта прыходзіць у трэнажорную залу "ад выпадку да выпадку", калі не атрымоўваецца прытрымлівацца рэжыму?**

– Адзін жа долар лепей, чым нічога. Так і з трэніроўкамі. Адзін раз лепей, чым не прыходзіць увогуле. Я лічу, што атмасфера ў зале настолькі матывуючая, што калі чалавек прыйдзе нават раз на тыдзень, то ў наступны ён падумае, чаму гэта я не магу, магчыма, іншыя справы не такія важныя, як маё здароўе. А калі чалавек проста кажа: "Я заняты. Я не магу", ён проста здымае з сябе ўсялякую адказнасць. Таму за сваё цела адказнасць перш за ўсё трэба несці ў сваёй галаве.

Вось апошні сказ быццам пра мяне. Больш чым за месяц мая вага зменшылася ўсяго на восем кілаграмаў. А чаму? А таму што замест чатырох трэніровак у тыдзень выдзяляю час на дзве. А да канца года застаецца ўсё менш і менш дзён. А лішніх кілаграмаў яшчэ так многа!

**УВАГА! СУПЕРПРАПАНОВА!**

# Да сплаву па Віліі "Шляхам Тышкевіча" застаўся 191 дзень

ВІЛЕЙКА

**Таму самы час пачаць рыхтаваць лодкі і планаваць сваё лета такім чынам, каб не прапусціць юбілейны сплаў па Віліі, які будзе прысвечаны 160-годдзю падарожжа Канстанціна Тышкевіча.**



Фота забяспечанае Міхаілам МІХАЛЕВІЧАМ.

Да сплаву трэба рыхтавацца загадзя. Падчас сплаву медыкаў (2016).

Яшчэ вясной прэзідэнт Саюза падарожнікаў Літвы **Альгімантас Юцэвічус** падчас навуковай канферэнцыі па Павіллі сказаў:

– Думаю, што сёння даецца старт, каб на наступны год паўтарыць экспедыцыю, бо спаўняецца 160 год падарожжа па Віліі Канстанціна Тышкевіча.

І вось вілейчанін **Міхаіл Петух**, які з 2009 года падхапіў і прадоўжыў справу **Віталя Кастэнкі** па арганізацыі і правядзенні экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча", нарэшце даслаў сябрам доўгачаканае паведамленне:

– Сябры! Калі будзеце планаваць графік адпачынкаў, звярніце ўвагу на тое, што юбілейная міжнародная беларуска-літоўская экспедыцыя "Шляхам Тышкевіча" да 160-годдзя вандроўкі графа Тышкевіча па Віліі-Neris адбудзецца ад 2 да 20 чэрвеня 2017 года ад вёскі Камена Вілейскага раёна да горада Каўнаса. Рэжым руху спартыўны, пераважна на байдарках. Праграма сплаву пасля ўзгаднення з літоўскім бокам і афіцыйнага зацвярджэння будзе размешчаная на сайце vedzen.narod.ru. Рэгістрацыя ўдзельнікаў пачнецца з сакавіка.

Да юбілейнага сплаву па Вяллі застаецца ўсяго 191 дзень.

Было б няблага, каб аматары вандровак, здаровага ладу жыцця і гісторыі ў першаю чаргу з нашага рэгіёна, дзе працякае Вялля (а гэта Докшыцкі, Лагойскі, Вілейскі, Маладзечанскі, Смаргонскі, Астравецкі раёны), далучыліся да гэтага грандыёзнага мерапрыемства.

І зусім неабавязкова праходзіць увесь маршрут, хаця б, каб новыя сябры змаглі далучыцца на дзень-два да сплаву асноўнай групы.

Вельмі будзем рады сустрэць на рацэ як старых сяброў з Мінска, Гомеля, Масквы, Літвы і Польшчы, якія прымалі ўдзел у ранейшых экспедыцыях, так і набыць новых сяброў.

Запрашаем да ўдзелу ў сплаве па Вяллі усіх ахвотных.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**член арганізацыйнага камітэта міжнароднай экспедыцыі 2017 года "Вілія-Neris", удзельнік штогадовых сплаваў экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча".**

НАВІНЫ

## Хто застанецца ў "Смаргоні"

СМАРГОНЬ

Па заканчэнні сезона кіраўніцтва футбольнага клуба "Смаргонь" правяло некаторыя кадравыя змены ў асноўным складзе каманды.

Скончыліся арэндныя дамовы з шасцю футбалістамі, якія вярнуліся ў размяшчэнне сваіх клубаў. Гэта **Павел Шчарбачэня, Павел Вакуліч, Аляксей Тараканаў, Андрэй Дручык, Аляксей Наско** і **Кірыл Ганчарук**. Кіраўніцтва і трэнерскі штаб клуба разлічваюць, што некаторыя з іх у наступным сезоне працягнуць выступаць за каманду таксама на ўмовах арэнды, паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**.

**Аляксей Лазко, Арцём Кіслы, Сяргей Галоўчык** і **Ігар Крывабок** скасавалі працоўныя дамовы з клубам.

У васьмі гульцоў "Смаргоні" ёсць дзейныя кантракты з клубам, з імі ўжо дасягнутая дамоўленасць аб тым, што яны ў наступным сезоне працягнуць выступленне за каманду. Гэта тычыцца абаронцаў **Паўла Люцько, Сяргея Ваўкарэзава, Ягора Мацвеева**, паўабаронцаў **Сяргея Бандарэнкі, Эдуарда Чудноўскага, Аляксандра Талканіца, Віталя Ганіча**, нападаючага **Аляксандра Клешчанка**.

Адкрытым застаецца пытанне па паўабаронцы **Максіму Яблонскім**. Да яго праяўляюць цікавасць некаторыя клубы вышэйшай і першай ліг. Аднак у Максіма таксама пакуль дзейны кантракт з ФК "Смаргонь", дадаў Уладзімір Амбрасевіч.

**Аддзел інфармацыі.**




## Лёгкая запяканка без мукі і манкі


Фота Gastronom.ru.

*500 г тварагу, 4 яйкі, 7 сталовых лыжак цукру, 2 сталовыя лыжкі смятаны з горкай (20-працэнтнай), 2 ст. лыжкі з горкай крухмалу, ванілін, разынкі па жаданні.*

Узбіце тварог, жаўткі, цукар, смятану, крухмал, ванілін. Пасля ўзбіце бялкі.

Змяшайце тварожную масу з узбітымі бялкамі. Па жаданні дадайце разынкі ці іншыя сухафрукты.

Выкладзіце ў форму, папярэдне засланую пергаментнай паперай і змазаную маслам.

Выпякайце 30-40 хвілін пры 180-200 градусах

**Проста МАРЫЯ.**



## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

РЭПЕРТУАР НА НА ЛІСТАПАД

**“Васіліса прыгажуня”** (чарадзейная казка), *К.Чарняк*
27 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

УНП 600136804



### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | 2 | | | | 7 | |
| | | 1 | 4 | | | 5 | | |
| | | | | | | | | 4 |
| | 3 | | | 8 | 5 | 9 | | |
| | 8 | 6 | | 7 | | 1 | 2 | |
| | | 9 | 1 | 2 | | | 6 | |
| 9 | | | | | | | | |
| | | 8 | | | 9 | 3 | | |
| | 6 | | | | 2 | | 8 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Калі б загалоўкі беларускіх твораў пісалі сучасныя журналісты: адказы

**У мінулым нумары выйшаў артыкул, што было б, каб загалоўкі беларускіх твораў пісалі сучасныя журналісты.**

На гэты раз друкуем прыдуманыя назвы і арыгінальныя назвы.

**1. Атручэнне кантрафактнай прадукцыяй прывяло да сустрэчы з багамі.**
Канстанцін Вераніцын. “Тарас на Парнасе”.

**2. Застрэліў дзяўчыну, калі тая адмовілася з ім “начкі каратаць”. Жудаснае забойства ў Берастэчку.**
Янка Купала. “Бандароўна”.

**3. Праца па-размеркаванні ў Хойніках: шукаем плюсы і мінусы.**
Якуб Колас. “На ростанях”.

**4. “Ён мяне мужыком назваў!” Нерэальныя разборкі ў пінскім мястэчку.**
Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. “Пінская шляхта”.

**5. “Дзярэўня”: сын выгнаў маці з хаты за тое, што яна размаўляла па-беларуску.**
Змітрок Бядуля. “На Каляды к сыну”.

**6. Наступствы нелегальнага гандлю спайсамі: падлеткі тыдзень жылі на востраве і выпадкова ўзялі ў палон небяспечных кантрабандыстаў.**
Янка Маўр. “Палескія рабінзоны”.

**7. Свецкая хроніка: ты не паверыш, каго заўважылі на сене разам з Яўхімам?**
Іван Мележ. “Людзі на балоце”.

**8. Расплатай за выратаванае жыццё стала аперацыя на сэрцы.**
Іван Шамякін. “Сэрца на далоні”.

**9. Хата, гаспадарчыя пабудовы і свежае паветра: шматдзетная сям’я з Парэчча набыла хутар на Стоўбцаўшчыне.**
Якуб Колас. “Новая зямля”.

**10. Некалькі гадоў запалохваў сваячку, каб тая хутчэй памерла, а маёнтак дастаўся яму.**
Уладзімір Караткевіч. “Дзікае паляванне караля Стаха”.

**11. Наступствы беспрацоўя ў рэгіёне: гусляр тэрарызуе гараджан начнымі спевамі.**
Янка Купала. “Курган”.

**12. Карупцыя, кар’ерызм і сэкс на рабочым месцы: следчыя не чакалі такіх вынікаў прафілактычнага агляду навуковага інстытута.**
Кандрат Крапіва. “Хто смяецца апошнім”.

**Аддзел інфармацыі.**



## У Палацы культуры адкрылі выставу графікі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Графічныя творы заўсёды пазнавальныя і вельмі прывабліваюць гледачоў, – лічыць кіраўнік студыі графікі ў маладзечанскім Палацы культуры **Галіна Сушко.**

У выставачным фае палаца 21 лістапада сабраліся зацікаўленыя графічным мастацтвам маладзечанцы.

Выставу графікі зладзілі тут навучэнцы мастацкай студыі “Чорна-белая прастора”. Па словах Галіны Сушко, першы праект студыі арганізавалі ў 2005 годзе. З 16 яго ўдзельнікаў 10 звязалі сваё жыццё з мастацтвам: сталі мадэльерамі, мастакамі, дызайнерамі.

Сёння ўдзельнікі студыі – маладыя людзі ад 9 да 17 год. На выставе яны паказалі свае графічныя пейзажы і нацюрморты, выявы загадкавых жанчын і цікавых жывёл.

Галіна Сушко разам са сваімі выхаванцамі падбіралі працы на выставу, прыдумвалі назвы для карцін.

На адкрыцці выставы знайшлося месца і іншым відам мастацтва. Гучалі вершы і музыка. А сябры юных мастакоў падарылі гледачам сучасны танец.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Кіраўнік студыі Галіна Сушко ў час адкрыцця выставы.**

Выстава працягнецца да 21 снежня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

РЭПЕРТУАР НА ЛІСТАПАД

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**“ГАСТРОЛІ БРЭСЦКАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ДРАМЫ ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ**
**“Гульня кахання і выпадку”** (камедыя ў 2-х дзеях), *П’ер Карле дэ Марыво*
25 лістапада – у 19:00

**“Месье з рагамі, малам з вусамі”** (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк’е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*
30 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*

Кантактныя тэлефоны:
75-29-16 – намеснік дырэктара,
76-17-32 – галоўны адміністратар,
75-24-17 – каса.
E-mail: modt@tut.by.by
Сайт: theatre-modt.by

УНП 600066659

### ГАРАСКОП
25 ЛІСТАПАДА – 1 СНЕЖНЯ


**Авен.** Каб не вызбіцца з раўнавагі, падлічвайце свае даходы і расходы. Бо вам захочацца купіць нешта з бытавой тэхнікі ці зрабіць іншыя пакупкі для дома.


**Цялец.** Не накопвайце крыўды і не адкладвайце на потым работу над імі.


**Блізняты.** Гэтыя дні будуць прысвечаныя такім падзеям, якія дазволяць вам утаймаваць сваю эмацыйнасць, а таксама лепш зразумець сябе. Іх трэба прысвяціць сабе. Для зносін з іншымі людзьмі яны не падыходзяць, бо лёгка могуць вывесці вас з раўнавагі як у станоўчы, так і ў адмоўны бок.


**Рак.** Калі вы ставіце перад сабой сур’ёзныя мэты і імкняцеся дасягнуць небывалых вяршынь, то памятайце, што вам прыйдзецца нешта ахвяраваць. І часам ахвяру трэба прынесці яшчэ задоўга да таго, як вы ўбачыце першыя прыкметы выніку.


**Леў.** Дні і падзеі могуць сур’ёзна вас расчараваць, але ўзнавіць душэўную раўнавагу вам дапаможа блізкае кола радні ці сяброў.


**Дзева.** У вас дастаткова сіл, і творчых таксама, каб задуманае ператварыць у жыццё, толькі прымяніце свае жаданні і фантазіі. І знайдзіце ў сабе рашучасць, каб зрабіць крок у правільным кірунку.


**Шалі.** Многа радасных падзей наведае вас у доме, перш за ўсё эмацыйных. Часам радасць можа быць нічым не абумоўленая, але хіба патрэбныя такому пачуццю нейкія доказы і прадпасылкі.


**Скарпіён.** Радуйцеся жыццю, але майце меру ва ўсім – ядзе, пітве, весялосці.


**Стралец.** Падзеі гэтых дзён можна назваць лёсавызначальнымі. Выбар за вамі.


**Казярог.** За сваё месца пад сонцам прыйдзецца памагацца, і не раз. Калі вы жадаеце стабільнасці і спакою, то неабходна адстаяць сваю пазіцыю, прытым, што сіл і магчымасцяў у вас будзе больш чым дастаткова.


**Вадалей.** Не старайцеся што-небудзь плаваць, асабліва ў рамантычнай сферы. Давярцеся сваёй інтуіцыі, унутранаму чуццю, і яно вас выведзе да патрэбнага выніку.


**Рыбы.** Час спрыяльны для тых, хто прывык дабівацца выніку, разлічваць на сваю рашучасць. Смела рухайцеся наперад, ніякія перашкоды не змогуць вас спыніць. Перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 26 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 | | 0 | | +1 | | 0 | |
| | +1 | | +1 | | +3 | | -3 | |
| | 746 | ↓ 5 | 738 | ↗ 5 | 727 | ↘ 6 | 737 | ↘ 11 |
| Вільня | +1 | | 0 | | +3 | | -1 | |
| | 0 | | +1 | | +2 | | -3 | |
| | 754 | ↓ 2 | 745 | ↗ 7 | 735 | ↘ 7 | 748 | ↘ 8 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.50
Захад 17.05
Даўжыня дня 8.15

Усход 22.29
Захад 13.15
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -19.1 °C у 1989 годзе
Максімальная тэмпература +7,9 °C у 1987 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,5 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як прайшла прыватызацыя на Маладзечаншчыне? Як атрымаць субсідыі на жыллё? Як ацэньваюць стан асвятлення ў горадзе? Заканчэнне абмеркавання жыллёва-камунальнай тэмы на "круглым стале" ў "РГ" чытайце праз тыдзень.**
- **У сваё 91 гэта жыхарка Маладзечна мае ясны розум і ўчэпістую памяць. Можа падрабязна расказаць, як будаваўся горад, бо шмат год адпрацавала кранаўшчыцай.**

Шмат
• фота
• відэа
• навінаў
шукайце
штодзень
на сайце "РГ"
Rh.by



● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



Фота забяспечанае Вольгай РАРОЎСКАЙ.

**Настрой – восень. Жанчына з дзіцем захапляецца прыгажосцю прыроды ў Ніжнім парку ў Вілейцы.**

● АФАРЫЗМЫ

У кожным чалавеку сонца. Толькі дайце яму свяціць.

Калі ты штосьці хочаш, то ўвесь Сусвет будзе садзейнічаць таму, каб тваё жаданне споўнілася.

Каб быць цалкам шчаслівым, трэба яшчэ і заслугоўваць шчасця.

Усе даброты няважныя, калі гаворка пра нас, але важныя надзвычайна, калі гаворка пра нашых блізкіх.

Добра выбірай таго, каго будзеш кахаць.

І ў свабодзе выбару бывае перабор.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ці трэба дзіцяці ў школе мабільнік?



**Ларыса Суравец, дыспетчар, Вілейка:**
– Мабільнік трэба ўсім. Нават бабулі з дзядулямі яго прызналі. Адзінае, у разумных межах. Напрыклад, знаёмая настаўніца расказвала, што цяпер па школе на перапынках дзеці не бегаюць па калідорах. Усе ў мабільніках сядзяць. Так не павінна быць.



**Людміла Атрошкіна, педагог, Вілейка:**
– Як настаўнік інфарматыкі скажу, што на ўроках мабільнік дзецям дакладна не трэба. Ды і на перапынках яны ім не карыстаюцца. У нас у школе ў кожным класе стаіць камп'ютар, інфармацыі дзецям хапае і без мабільніка. А вось пасля ўрокаў – калі ласка. У нас у школе нават ёсць бясплатны вай-фай.



**Іна Бауліна, бібліятэкарка, Вілейка:**
– Сваёй дачцэ я даю мабільнік у школу. Але ён трэба ёй не ў школе, а пасля. Яна заўсёды тэлефануе мне, калі закончыліся ўрокі і яна ідзе дадому. Тады я яе сустракаю. Час цяпер небяспечны. Лепш, каб дзіця было на сувязі.



**Юлія Ціхончанка, псіхолаг, Вілейка:**
– Тэлефоны на ўроках дзецям не трэба. А вось пасля ўрокаў – так. Для заспакаення бацькоў.



**Алег Мацвееў, педагог, Маладзечна:**
– У свой час нашы бацькі адпускалі нас у школу без мабільнікаў. А мы прывыклі, каб нашы дзеці былі на сувязі з намі. Без гэтага вынаходніцтва прагрэсу мы ўжо не ўяўляем жыцця.



**Марыя Кашнікава, вучаніца, Маладзечна:**
– Я бяру ў школу мабільнік. Але толькі таму, што мне тэлефануюць. У сацыяльных сетках я не сяджу.



**Ягор Шарамет, навучэнец, Маладзечна:**
– Мабільнік – карысная рэч. Напрыклад, знайшоў дадатковую інфармацыю па прадмеце ў інтэрнэце, схадзіў у бібліятэку, раздрукаваў – вось ужо і рэферат гатовы. А сядзець у сацыяльных сетках – сябе не паважаць.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№48 (1126) 25.11.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак.1144. Падпісана ў друк у 9.00 24.11.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.